*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 20 мая 1988 г. № 21 (3431) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У НУМАРЫ:



Парадаваўшы сваім вяртаннем бацькоў, Уладзімір Аўтушка паспяшаўся знаёмай сцежкай на саўгасны мехдвор. Хацелася хутчэй пабачыцца з сябрамі, залезці ў знаёмую да дробязей кабіну трактара. Далёка ад родных мясцін, на нялёгкай вайсковай службе яму часта ўспаміналіся твары аднавяскоўцаў, сніліся залатыя хвалі жыта. Дома, у докшыцкім саўгасе «Бягомльскі» яго з надзеяй чакалі. Яшчэ да арміі Уладзімір лічыўся адным з лепшых у акрузе трактарыстам.

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# БОЛЬШ ДЭМАКРАТЫІ, БОЛЬШ САЦЫЯЛІЗМУ!

**Анкета «ЛіМа»**

**Амаль лічаныя дні засталіся да вялікай падзеі ў жыцці нашай краіны — адкрыцця XIX партыйнай канферэнцыі. Партыя, усё грамадства вядуць да яе дзейную падрыхтоўку. Ідуць гарачыя дыскусіі аб шляхах далейшай дэмакратызацыі і дэсталінізацыі грамадства, развіцця галоснасці, аб тым, як хутчэй пазбыцца таго, што перашкаджае перабудове.**

**«Якія праблемы вы ўзнялі б, на чым засяродзілі б увагу, калі б вам давялося выступіць з трыбуны канферэнцыі!» — з такім пытаннем «ЛіМ» звярнуўся да некаторых сваіх чытачоў. Ніжэй друкуем адказы Г. ДАЛІДОВІЧА, К. ТАРАСАВА і Э. ЯЛУГІНА.**

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**



## УЗНІКАЮЦЬ ТАКІЯ ПЫТАННІ...

Можа, памыляюся, не буду сцвярджаць настойліва, але здаецца, што многія з нашага творчага саюза назіраюць, чакаюць, што будзе далей: і тыя, хто глытнуў энтузіязму ў 20-ыя, ператросся ў 30-ыя, нагараваўся ў 40-ыя, ажывіўся ў 50-ыя, акамянеў у 60—70-ыя, і тыя, хто пачаў сваю дзейнасць, даверыўся, а пасля ўсім-тым расчараваўся ў апошнія дзесяцігоддзі. Па-першае, як пісаў Якуб Колас, у многіх «забіты дух яго вякамі ўжо чуе страх перад панамі», а па-другое, многія чакаюць большай яснасці ва ўсім, асабліва не рызыкуюць, пакрысе асвойтваюцца і... Што і як будзе далей, пакажа ўжо самае блізкае будучае.

...Калі б апынуўся на XIX Усесаюзнай партканферэнцыі я, то пастараўся б задаць некалькі пытанняў, якія хвалююць. І, думаю, не толькі мяне аднаго. На гэтыя пытанні мы самі не можам як след адказаць, бо і ў школе, інстытуце, і пазней у працоўным калектыве, адным словам, яшчэ і на пачатку 80-ых нам не гаварылі ўсёй праўды, асвятлялі нашыя савецкія 70 гадоў не зусім шчыра, бывала, вадзілі за нос, а то і цыкалі за «лішнюю цікавасць». У выніку цяпер кожнаму з нас трэба шмат вытрымкі, развагі, ведаў і інтуіцыі, каб адрозніць Вялікую Праўду, Дабро ад Маны і Зла, самім убачыць і ацаніць тое станоўчае, што было і ёсць у нашай рэчаіснасці, каб трымацца за яго і ісці з ім у будучыню. Асобныя сённяшнія публікацыі (найперш ва ўсесаюзнай прэсе) спрыяюць пазнаць Ісціну, а некаторыя, на жаль, яшчэ болей заблытваюць у лабірынце пакручастых хадоў гісторыі, зводзяць убок ад святла, разгубліваюць у мностве поглядаў на пэўную з'яву альбо асобу, урэшце маюць на ўвазе даць нам сваю Версію, не назваць рэчы сваімі іменамі...

Пытанняў, зразумела, шмат. Асабіста я запытаў бы пра наступнае:

1. Усё ж сацыялізм гэта ці не — створаная пасля смерці Леніна адміністрацыйна - камандная сістэма, якую сёння мы называем сталінізмам?

2. Чаму такую неабдымную самадзяржаўную ўладу набыў якраз Сталін? Чаму гэткімі бездапаможнымі аказаліся сотні, тысячы загартаваных, з большай адукацыяй, культурай, чым у Сталіна, рэвалюцыянераў ленінскай школы?

3. Што гэта, па словах Бухарына, за «адская машына», што перамалола і старую рэвалюцыйную гвардыю, і мільёны невінаватых, сумленных простых працаўнікоў, дзеячаў навукі і культуры, вайскоўцаў, маладыя парасткі партыйных і савецкіх работнікаў?

4. Чаму рэвалюцыйны ахоўны апарат гэтак хутка пераўтварыўся ў карны?

5. Чаму сістэме, якая абвясціла самыя гуманныя ідэі, шмат зрабіла для народаў СССР і свету, найперш спатрэбіліся баязлівыя, паслухмяныя, крывапіўныя павукі тыпу Ягоды, Яжова, Берыі, Цанавы і іншых? Як гэта можна будаваць светлае заўтра на моры слёз і крыві?

6. Чаму сталінізм у пэўнай форме паўтарыўся ў Кітаі, у Кампучыі? Чаго тут больш: выпадковасці ці нейкай заканамернасці?

7. Як вядома, сталінізм скрыўляў ленінізм, хоць і прыкрываўся ленінскім сцягам. Нямала з гэтых скрыўленняў папраўлена ўжо. Калі і як будуць цалкам адноўлены ленінскія прынцыпы правоў саюзных рэспублік, зведзеных у свой час да правоў аўтаномных і абласных? Хіба не патрэбна для нашай адной палітыкі, эканомікі, каб кожная рэспубліка адчула сябе краінаю, а не існавала ў ролі, кажучы словамі Гамзатава, Загатканторы, каб кіраўнікі рэспублікі адчувалі сябе гаспадарамі, шматбаковымі асобамі, а не загадчыкамі нарыхтоўчага прадпрыемства? Ці сёй-той баіцца, што нармальнае эканамічнае, сацыяльна - культурнае развіццё кожнай рэспублікі не будзе мець патрэбы ў камандах, адміністрацыйна - бюракратычных надбудовах, сотнях тысяч трутнях, якія любяць правяраць, наганяць пуд і смачна паесці і не толькі абмежавацца гэтым? Ці не само жыццё змушае спрасціць нашу Адміністрацыйную Сістэму, зрабіць яе больш гібкай і творчай, дзе ўсё трымалася б не на вокрыку і страху, а на даверы, увазе, падтрымцы і аднолькаваму для ўсіх строгаму, але зычліваму запытанню?

8. Ці не жыццёва неабходна сабраць на семінар усіх сённяшніх партыйных, савецкіх, камсамольскіх кіраўнікоў, на якім добра ім растлумачыць, што такое нацыянальнае і што такое нацыяналістычнае? Ці не час пры ЦК альбо ўрадзе кожнай рэспублікі ўтварыць сектары (камісіі) па нацыянальным пытанні і даручыць узначаліць гэты орган не выпадковаму, а кампетэнтнаму, цярпімаму чалавеку, які б глыбока разбіраўся ў вышэйназваных пытаннях, спрыяў бы справядліва вырашаць іх, а не вышукваў бы ва ўсім гэтым крымінал?

9. Ці не набывае сістэму ў некаторых рэспубліках практыка прызначаць на кіруючыя ідэалагічныя, культурныя ўчасткі тэхнакратаў, якія былі б болей карысныя на іншых пасадах, толькі не на гэтых? Чаму не патрабуецца ад ідэалагічных работнікаў веданне і нацыянальных моў, мовы карэнных насельнікаў рэспублікі?

10. Ці варта трымаць на ідэалагічных участках адных і тых жа людзей па 10, 15, 25 гадоў, а то і пажыццёва? Няўжо не відаць, што многія з іх адстаюць ад жыцця, ад яго новых праблем, няўклюдна падстройваюцца пад кожнага новага высокага кіраўніка, баяцца ўсяго новага, часамі складанага, не прымаюць усё жывое?

11. Чаму і цяпер, у час галоснасці і дэмакратыі, для нас, камуністаў, членаў партбюро творчых саюзаў, па-ранейшаму дакументы вышэйшых партыйных органаў за сямю замкамі? Ці можам мы па-сапраўднаму быць памочнікамі партыі, калі мы не ў курсе не некаторых прынцыпова важных спраў, у тым ліку і ў галіне ідэалогіі, культуры, асветы і навукі?

12. Урэшце, ці не варта для шырэйшага народнага прадстаўніцтва выбіраць у бюро партыйных камітэтаў усіх узроўняў значна больш пасланцоў рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі, у тым ліку і творчай?

**Канстанцін ТАРАСАЎ**



## З НАДЗЕЯЙ

Адна з відавочных заваёў распачатай у краіне перабудовы — грамадская актыўнасць мноства людзей, іх народжаныя сённяшнім жыццём спадзяванні, што доўгачаканыя рэвалюцыйныя перамены адбудуцца, што са сталінскай спадчынай будзе пакончана не толькі на словах, а і на справе, і, нарэшце, дэмакратызацыя набудзе доказныя і незваротныя формы.

Такія надзеі прыхільнікі перабудовы звязваюць з XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыяй, чакаюць ад яе рэальнай палітычнай перамогі над кансерватыўнымі сіламі, якія давялі краіну да глыбокага крызісу.

Сталінская дэспатыя, аўтарытарнае кіраўніцтва эканомікай, палітыкай, культурай стварылі мёртвую атмасферу фармалізму, фарысейства, двайной маралі, выхавалі кагорты кап-

## ЗАХОЎВАЦЬ ДУХОЎНУЮ СПАДЧЫНУ

**Быць адказным не толькі за сучаснае і будучае Айчыны, але і за захаванне яе мінулага, за бясцэнныя творы папярэдніх пакаленняў — грамадзянскі абавязак кожнага савецкага чалавека. Аб гэтым ішла размова на Усесаюзнай нарадзе па ахове, рэстаўрацыі і выкарыстанню помнікаў гісторыі, культуры і архітэктуры, якая 16—17 мая праходзіла ў Маскве. Яе ўдзельнікі абмяркавалі праблемы захавання гісторыка-культурнай спадчыны, намецілі канкрэтныя шляхі ўдасканалення высакароднай справы зберажэння шэдэўраў мінулага.**

**Нараду адкрыў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР Н. В. Талызін.**

**Даклад зрабіў міністр культуры СССР В. Г. Захараў.**

**На нарадзе выступіў намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР, старшыня Дзяржбуда СССР Ю. П. Баталін.**

**Усяго на пленарных пасяджэннях і секцыях выступіла сто прамоўцаў. З улікам дыскусіі будуць распрацаваны дакументы, якія прадугледжваюць удасканаленне ўсёй справы ўліку, аховы, рэстаўрацыі і выкарыстання помнікаў гісторыі, культуры і архітэктуры.**

## ГІСТОРЫЯ НАРОДА І ЛІТАРАТУРА

**19—20 мая адбыўся чарговы пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.**

**Уступным словам пленум адкрыў старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі Максім Танк.**

**З дакладамі на тэму «Гісторыя народа і літаратура. Да 70-годдзя Беларускай ССР і КПБ» выступілі А. Мальдзіс і М. Мушынскі.**

**Па другім пытанні парадку дня даклад «Выкананне рашэнняў IX з'езда пісьменнікаў Беларусі і шляхі перабудовы арганізацыйна-творчай дзейнасці Саюза пісьменнікаў БССР» зрабіў першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч.**

**Па вынесеных на абмеркаванне пытаннях адбыліся спрэчкі, у якіх прынялі ўдзел пісьменнікі і гісторыкі В. Быкаў, М. Касцюк, Б. Сачанка, І. Новікаў, У. Арлоў, М. Ермаловіч, В. Грыцкевіч, А. Лойка, У. Палуян, В. Іпатава, У. Казбярук, А. Грыцкевіч, Г. Каханоўскі, Р. Смольскі, Л. Дайнека, Л. Караічаў, А. Малашка, В. Чамярыцкі, Л. Яўменаў і іншыя.**

**На пленуме прысутнічала дэлегацыя Саюза пісьменнікаў СССР на чале з сакратаром праўлення Ю. Сураўцавым.**

**У рабоце пленума прынялі ўдзел Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. С. Таразевіч, сакратар ЦК КПБ В. А. Пячэннікаў, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай, загадчык сектара мастацкай літаратуры Аддзела культуры ЦК КПСС В. А. Сцяпанаў, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Я. К. Вайтовіч, сакратар Мінскага абкома партыі А. І. Жыльскі, адказныя работнікі ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР, кіраўнікі міністэрстваў, ведамстваў, творчых саюзаў рэспублікі.**

**Справаздача аб пленуме будзе апублікавана ў бліжэйшых нумарах «ЛіМа».**

## АБ'ЯДНАЛА ПАЭЗІЯ

**У гасцях у працаўнікоў горада над Бугам пабываў Рыгор Барадулін. У Палацы культуры Брэсцкага аблсаўпрофа, дзе сабраліся аматары беларускай літаратуры, адбылася зацікаўленая размова аб паэзіі, шляхах яе развіцця, уздзеянні на ўнутраны свет чалавека. Р. Барадулін расказаў аб сваіх паездках у іншыя краіны, удзел у рабоце сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, падзяліўся планамі, прачытаў свае творы, урывак са «Слова пра паход Ігаравы» ў сваім перакладзе.**

**Уладзімір Калеснік, які вёў вечар, ад імя чытачоў пажадаў паэту далейшага плёну.**

**Б. ЗІНКЕВІЧ.**

## *ВОСЬМЫ РЭСПУБЛІКАНСКІ*

**18 мая ў Мінску завяршыўся VIII Рэспубліканскі конкурс музыкантаў-выканаўцаў.**

**Па традыцыі ў ім удзельнічалі піяністы, скрыпачы, альтысты і віяланчэлісты. Гэтае музычнае спаборніцтва — першы этап адборачнага цыкла да міжрэспубліканскага, усесаюзнага конкурсаў, а таксама да міжнароднага конкурсу імя П. І. Чайкоўскага.**

**У гэтым конкурсе ўдзельнічала каля 60 маладых выканаўцаў з розных гарадоў рэспублікі, у тым ліку з Баранавіч, Брэста, Гомеля, Ліды, Магілёва. Горад Мінск прадстаўлялі студэнты Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, вучні Сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры БДК і Мінскага музычнага вучылішча, артысты Белдзяржфілармоніі. Праграма ўключала музыку розных жанраў і стыляў, абавязковыя творы, напісаныя спецыяльна для конкурсу.**

**Журы піяністаў узначальваў заслужаны артыст РСФСР прафесар Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі М. Васкрасенскі. Старшыня журы па спецыяльнасцях скрыпка, альт, віяланчэль — народны артыст СССР прафесар Я. Глебаў.**

**У бліжэйшых нумарах «ЛіМа» мы паведамім пра вынікі конкурсу.**

## «ЭКАЛОГІЯ КУЛЬТУРЫ НАРОДА»

**На пачатку мая адбылася ўстаноўчая нарада па правядзенні семінара «Экалогія культуры народа». У ёй прынялі ўдзел пісьменнікі, архітэктары, тэатральныя дзеячы і кампазітары, навуковыя супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, прадстаўнікі Савецкага фонду культуры, Мінскага педінстытута імя М. Горкага, Беларускага інстытута культуры. Сваімі меркаваннямі аб маючым адбыцца семінары, яго характары і змесце, падзяліліся пісьменнікі С. Грахоўскі, У. Юрэвіч, І. Новікаў, С. Клімковіч, кампазітар А. Рашчынскі, саліст Вялікага тэатра оперы і балета БССР, заслужаны артыст рэспублікі В. Скорабагатаў, артыст Акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Купалы В. Манаеў, галоўны рэжысёр Дзяржаўнага рускага тэатра БССР імя М. Горкага В. Маслюк, вучоныя, мастацтвазнаўцы.**

**В. ЯКАВЕНКА,**
старшыня секцыі
нарыса і публіцыстыкі
СП БССР.

ПЕРАБУДОВЕ — ІДЭІ АБНАЎЛЕННЯ

Валянцін ТАРАС

# УРОК ШАСЦІДЗЕСЯТЫХ

ДНЯМІ, перабіраючы свае паперы, знайшоў у адной з папак пажоўклы, дваццаціпяцігадовай даўнасці нумар «Литературной газеты» з артыкулам, у якім мне добра даставалася «на арэхі», і не толькі мне, а яшчэ і Віктару Каваленку, некаторым іншым маладым у той час літаратарам. Не буду называць прозвішча аўтара таго артыкула, чалавек гэты даўно памёр і хай зямля будзе яму пухам, калі ўлічыць, што ў асабістым плане чалавек ён быў не такі ўжо зласлівы. А што тычыцца яго грамадскай, ідэйна-мастацкай пазіцыі, дык хопіць з яго і той кары, што ён сам змарнаваў, сам загубіў уласную паэтычную творчасць: сёння з вялізнай колькасці яго вершаў і паэм немагчыма перавыдаць амаль нічога, бо вельмі ж мала ў іх жывога, натуральнага, чалавечнага і вельмі многа голай рыторыкі, барабаннага бою побач з саладжавым заміласваннем «цудоўнай рэчаіснасцю»,— менавіта з пазіцый сваёй «цудоўнай рэчаіснасці» ён і «паб'іў» нас, тагачасных маладых. Хоць, па праўдзе кажучы, якія мы былі маладыя? У кожнага за плячыма было жорсткае ваеннае дзяцінства, гаротныя пасляваенныя гады — тая школа жыцця, якая шмат у чым пераважвала і звычайную сярэднюю школу і універсітэцкія праграмы. Адным словам, у нас быў значны жыццёвы вопыт, памножаны на тую суровую гістарычную праўду, якую данеслі да нас XX і XXII з'езды КПСС, што абудзіла самастойную думку, дапамагло ўсвядоміць, асэнсаваць многае з таго, што мы раней больш адчувалі, чым разумелі. Вопыт мінулых жыццёвых выпрабаванняў і роздум над тым, да чаго павярнулі нас тварам названыя партыйныя з'езды, спрыялі нашай грамадзянскай сталасці, нараджалі новую якасць нашай веры ў сацыялізм, якая з эмацыянальнай, рамантычнай, лозунгавай ператваралася ў свядомую, — перафразіруючы ленінскія словы пра Эптана Сінклера, можна сказаць, што наш «сацыялізм пачуцця» рабіўся «сацыялізмам пераканання». Не страціўшы сваіх гарачых пачуццяў і нават свайго рамантызму, мы разам з тым спасцігалі жорсткія рэаліі нашай савецкай гісторыі і вучыліся аналізаваць яе, каб ачысціць сацыялізм ад злаякаснай каросты культу «правадыра». І тут самы час успомніць, што той артыкул у «Литературной газете» быў рэакцыяй на адну з дыскусій, якая перад тым праводзілася на старонках «Літаратуры і мастацтва» пад знакам зусім яшчэ нядаўняга тады — толькі паўтара года прайшло пасля яго! — XXII з'езда партыі, дзе, як вядома, партыя зноў, яшчэ больш рашуча, чым на XX з'ездзе, выступіла супраць культу асобы Сталіна, з новымі фактамі ў руках выкрыла яго шкодныя для справы сацыялізму вынікі. Менавіта XXII з'езд прыняў пастанову аб вынасе труны Сталіна з Маўзалея. І здавалася, што разам з ёй з жыцця краіны назаўсёды, беспаваротна выносяцца і ўсе струпянелыя догмы «вялікай сталінскай эпохі», што пасля «адлігі» пяцьдзесят шостага пачынаецца сапраўдная вясна аднаўлення, што агонь праўды з кволага пялёстачка становіцца магутным ачышчальным кастром. (Сваё выступленне ў той лімаўскай дыскусіі я, дарэчы, так і назваў: «Вечны агонь праўды»).

А тут раптам гэты артыкул — вялізны цэбар халоднай вады на нашы гарачыя і, як высветлілася крыху пазней, усё яшчэ наіўныя галовы...

Што ж абурала аўтара артыкула, што выдавалася яму крамолай, замахам на «ўстоі», чым ён кіраваўся, калі лічыў, што «вечны агонь праўды» трэба неадкладна патушыць? Варта зірнуць на гэта сёння. Варта таму, што і ў нашы дні ёсць нямала «пажарнікаў», якія кіруюцца тымі ж самымі матывамі, што і «пажарнікі» шасцідзесятых. Самы красамоўны прыклад гэтаму — артыкул Ніны Андрэевай у газеце «Советская Россия», гэты сталінісцкі брандспойт, з якога ярасна вырвалася варожасць да перабудовы, да галоснасці і дэмакратызацыі. І нельга не ўстрывожыцца, убачыўшы, што гэты «маніфест антыперабудовачных сіл» паспешліва перадрукавалі некаторыя расійскія, і не толькі расійскія, газеты, што і ў нашай рэспубліцы была спроба абвясціць яго «дырэктыўным матэрыялам», у прыватнасці, навязаць яго перадрук газеце «Знамя юности». Да гонару знаменцаў, яны адмовіліся гэта зрабіць, але ж небяспека не знікла і не знікне, пакуль «пажарнікі» ўчарашняга дня стаяць на сваіх камандных вышках, пакуль жыве ідэалогія «цудоўнай рэчаіснасці», пакуль яе адэпты амаль дакладна паўтараюць тое самае, што гаварыў аўтар таго даўняга артыкула ў «Литературной газете».

Вось адна вельмі характэрная мясціна з яго: «Нам нельга губляць сацыяльныя, марксісцка-ленінскія крытэрыі ў ацэнцы з'яў літаратуры... В. Тарас, напрыклад, піша: «Я лічу адной з асноўных і галоўных задач літаратуры выхаванне павагі да чалавека і глыбокага сардэчнага спачування яму». Быццам бы правільна сказана. Але пра якога чалавека ідзе размова? Максім Горкі гаварыў: «Трэба паважаць чалавека! Нельга зневажаць яго жалем». В. Тарас, раскрываючы сваё разуменне «павагі», не згаджаецца з горкаўскім сцверджаннем, матывуючы гэта тым, што пры культе асобы Сталіна «мала бачылі мы сапраўднай павагі да чалавека». І далей аўтар артыкула ўсклікаў: «Так, у перыяд культу асобы Сталіна ў дачыненні да многіх харошых савецкіх людзей была дапушчана вялікая несправядлівасць. Але і ў тыя часы імя савецкага чалавека гучала на ўвесь свет горда!» Логіка, вядома, цудоўная, аднак наўмысна цьмяны, заблытаны цытаваннем Горкага яе падтэкст я зразумеў да канца пазней, гадоў праз пяць пасля з'яўлення таго артыкула, сутыкнуўшыся з той жа логікай у разважаннях аднаго «таварыша ў цывільным», які праводзіў са мною так званую «прафілактычную гутарку». Папракаючы мяне за тое, што я «распаўсюджваю звесткі пра катаванні сумленных савецкіх людзей следчымі НКУС у трыццатыя гады», таварыш гэты сказаў: «Катаванні, магчыма, мелі месца. Але калі вы сапраўдны савецкі патрыёт, дык не павінны пра іх успамінаць, а тым больш гаварыць, бо і ў тыя часы гэта былі нашы родныя савецкія органы». А калі я сказаў яму, што для маршала Тухачэўскага, для камандармаў Убарэвіча і Якіра, для тысяч камуністаў ленінскай гвардыі свая савецкая куля была ў сто разоў больш балючая і страшная, чым куля ворага, таварыш са смуткам заўважыў: «Не, вы не патрыёт. Не разумееце простых рэчаў». І ўспомнілася тады, як «не разумеў простых рэчаў» крытык Рыгор Бярозкін, калі, як ён неаднойчы расказваў, у 1939 годзе яго, дваццаціпяцігадовага хлопца, арыштавалі і прывялі на допыт. Следчы пачаў з ім размову з таго, ці ведае ён, Бярозкін, што сказаў пра чалавека Максім Горкі.

— Горкі сказаў: «Чалавек — гэта гучыць горда...»

— Памыляешся! — рагатнуў следчы. — Горкі сказаў: «Калі чалавек не здаецца — яго знішчаюць!»

— У Горкага сказана: калі вораг не здаецца, — паспрабаваў паправіць следчага арыштаваны, але следчы загадаў: «Маўчаць! Чалавек, калі ён занадта разумны, і ёсць вораг».

Вось табе і гордасць на ўвесь свет. Вось табе красамоўны ўрок гуманізму. «Правільнага» гуманізму сталінскага гарту. І паглядзіце, хіба не ім кіраваўся ў 1963 годзе — пасля XX і XXII з'ездаў партыі! — аўтар артыкула ў «Литературке», калі пісаў: «Няправільнае разуменне прынцыпаў гуманізму прывяло некаторых крытыкаў да сцверджання, што «ідзе па свеце век ачалавечвання», што сцягам наватарства павінна быць не імкненне адлюстраваць нашу рэчаіснасць, а ў першую чаргу «непрымірымасць» у паказе яе ценявых бакоў».

Ну, вядома, «ценявыя бакі» не маюць да рэчаіснасці ніякага дачынення! А той, хто думае інакш, «адхіляецца ад прынцыпаў сацыялістычнага рэалізму». І — ці не смешна, а дакладней, ці не жахліва?— «правільны гуманіст» пераканаў, што радок паэта: «ідзе па свеце век ачалавечвання» супярэчыць гуманістычным прынцыпам! Сёння цяжка паверыць, што такое друкавалася, але ж — друкавалася!...

Не чапайце мінулага, заклінаў аўтар «Литературки», бо яно святое, не слухайце Віктара Каваленку, калі ён заклікае чытаць і вывучаць Кафку і Джойса — яны нам непатрэбны, цурайцеся «інтэлектуальнага пачатку ў прозе», бо «аматары сучаснага стылю льюць, самі таго не заўважаючы, ваду на млын прыхільнікаў мірнага суіснавання розных ідэалогій...» І гэтак далей, і гэтак далей — увесь букет сталінісцкіх догмаў, сумесь абскурантызму з «прынцыповым» невуцтвам, фельдфебельскае «Смірна!», крыху згладжанае вымушана лагодным тонам — XXII з'езд яшчэ ўсё ж дыхаў аўтару ў патыліцу.

Ды як бы там ні было, мы ўсё ж не думалі, што гэты артыкул толькі «кветачкі», што чакаюць нас і «ягадкі». Не думалі, хоць яшчэ ў пяцьдзесят восьмым была нам перасцярога, грымнуў над намі сталінісцкі пярун: «Не зарывайцеся ў савецкі крытыцы мінулага! Кепска будзе!..» А грымнуў пярун праз месяц пасля таго, як у пятай кніжцы часопіса «Маладосць» за той жа пяцьдзесят восьмы год з'явілася аповесць Аляксея Кулакоўскага «Дабрасельцы» — сумленная, шчырая рэч, у якой упершыню ў беларускай пасляваеннай прозе, калі не ва ўсёй савецкай прозе наогул, была сказана праўда аб жыцці калгаснай вёскі да вераснёўскага (1954 г.) Пленума ЦК КПСС. Праўда бязлітасная, жорсткая, гнеўная. І калі сёння чытаеш у газетах пра ўзбекістанскую «адылаўшчыну», перад вачыма паўстае створаны Кулакоўскім у «Дабрасельцах» вобраз старшыні сельсавета Лявона Мокрута, гэтага тутэйшага Адылава, якога пісьменнік убачыў і выкрыў яшчэ трыццаць год назад, трыццаць год назад намаляваў жахлівую карціну маральнага распаду кіраўніка, які стаў над народам, хай сабе і на невялічкім узгорачку, тут не пасада важная, а тып, народжаны сталінскай адміністрацыйна-каманднай сістэмай з яе пагардай да чалавека, да закона, да маралі, тып, вакол якога жыруюць трутні, хабарнікі, паклёпнікі, вакол якога распадаецца, загнівае і гаспадарка, і само чалавечае жыццё.

І вось 21 чэрвеня 1958 года ў «Літаратуры і мастацтве» грымнуў той сталінісцкі пярун: вялізны артыкул крытыка Якава Герцовіча. Ужо сама назва яго — «Чорнымі фарбамі» — паказвае стаўленне крытыка да аповесці «Дабрасельцы». Сёння проста дзіву даешся, як крытык літаральна курчыцца, выгінаецца, калоціцца ад той праўды жыцця, якая пададзена ў «Дабрасельцах», курчыцца так, быццам гэта яго самога, а не Лявона Мокрута з хаўруснікамі паставілі перад судом чытачоў, перад судом грамадскасці. Ды, зрэшты, так яно і было, аповесць Кулакоўскага біла не ў брыво, а ў вока ўсім тым, хто стаяў на пазіцыях «цудоўнай рэчаіснасці», на пазіцыях таго «рэалізму», які герцовічы называлі сацыялістычным, але які больш правільна было б назваць сарамлівым. Адэпты гэтага «сарамлівага рэалізму» наўмысна закрывалі вочы на сапраўдную, жывую рэчаіснасць, на існаванне і панаванне ў нашым жыцці мокрутаў розных рангаў, — не наіўным шкалярам быў крытык Якаў Герцовіч, а спрактыкаваным газетным «ваўком», які з'ездзіў усю Беларусь уздоўж і ўпоперак, сотні разоў бываў на вёсцы, і добра бачыў, што пісьменнік Аляксей Кулакоўскі не змяніў у сваёй аповесці ні на ёту. Бачыў, але напісаў, што пісьменнік хлус, што ён усё мажа дзёгцем, напісаў, што «аўтар аповесці нават не зразумеў, якімі заганнымі метадамі ён карыстаўся, каб паказаць жыццё беларускай вёскі да вераснёўскага Пленума ЦК... каб даказаць, што быў нібыта (падкрэслена мною. — **В. Т.**) заняпад». «Заганнымі метадамі» была, вядома, праўда як мастацкая катэгорыя, а заняпаду, вядома, не было, хоць немагчыма зразумець, чаму, калі яго не было, спатрэбіўся вераснёўскі Пленум? Але ці патрэбна была нармальная логіка крытыку, чыё пяро было прыстасавана для напісання палітычных абвінаваўчых актаў, заснаваных на «лепшых традыцыях» трыццаць сёмага года?!.

Горка ўсведамляць, што змрочны, нялюдскі, артыкул гэты і мноства да яго падобных адбілі Аляксею Кулакоўскаму рукі — нічога больш значнага пасля «Дабрасельцаў» ён так і не напісаў, так і пайшоў з жыцця, цяжка паранены перамі сталінісцкіх літаратурных катаў...

А што ж мы? Мы больш пасмейваліся з «Чорных фарбаў», чым абураліся, і зусім не палохаліся, не насцярожваліся, бо нам здавалася, што гэта не страшна, а проста недарэчны рэцыдыў учарашняга дня, бурбалка мінулага, якую ў віры пераўтварэння пусціў тапелец.

Не насцярожыліся мы і пасля таго, як пачаўся абстрэл творчасці Васіля Быкава, калі грымнулі залпы па яго галоўнай сутнасці. У бязлітаснай, бескампраміснай, жорсткай праўдзе Быкава, у яго псіхалагічных «экзістэнцыях» крытыка ўгледжвала толькі так званую ахвярнасць і папракала пісьменніка за тое, што ў яго творах нібыта няма ўслаўлення «высокага подзвігу», «светапогляду нашага», што ў іх — «аморфная сумесь добрага і благога» пры адсутнасці «гераічнай і ўзвышанай канцэпцыі вайны». Але і гэта нам здавалася толькі прыватнай думкай асобных аўтараў, хоць было на самой справе, як гэта добра бачыцца цяпер, агульнай пазіцыяй усіх тых, хто рыхтаваўся даць бой той праўдзе, якую яны назвалі «акопнай», што, дарэчы, тычылася не толькі літаратуры, аб вайне і наогул літаратуры, але і ўсёй той грамадскай плыні, якая была народжана XX і XXII з'ездамі партыі, спробай рэформ шасцідзесятых гадоў. Аднак хутка мы гэта зразумелі, не да канца, як сёння, але ўсё ж зразумелі, і зразумелі на прыкладзе арганізаванага цкавання таго ж Быкава, бо ў той час менавіта яго творчасць найбольш поўна і паслядоўна ўвасабляла ў сабе прынцып сапраўднай літаратуры, для якой не існуе «забароненых зон», кан'юнктурных меркаванняў, якая адгукаецца не на чарговы лозунг ці заклік, а на голас народнай душы, на боль чалавечага сэрца, якая спаўняе свой абавязак не перад тэкстыльшчыкамі ці буракаводамі, мулярамі ці геолагамі, металургамі ці бухгалтарамі (гэта ж і сёння прадстаўнікі кожнай прафесіі, кожнай галіны сельскай гаспадаркі ці прамысловасці, навучаныя вульгарызатарскай крытыкай, патрабуюць ад літаратуры сплаціць ім «неаплатныя даўгі»!), а перад чалавекам як мерай усіх рэчаў.

У крытыкаў Быкава была іншая мера — мера «вінціка», падпарадкаванага «ўзвышанай канцэпцыі», у іх, былі дзве катэгорыі праўды —«маленькай», «акопнай», «радавой», якой яны грэбавалі, і праўды «стратэгічнай», праўды ў маршальскіх пагонах. Менавіта пад сцягам гэтай «праўды» крытык Іван Агееў атакаваў быкаўскую «Праклятую вышыню», менавіта пад лозунгам услаўлення «высокага подзвігу» накінуліся на «Круглянскі мост» у сафронаўскім «Огоньке» былыя партызанскія генералы, людзі, вядома, паважаныя, але зашораныя догмамі «сарамлівага рэалізму», што не перашкодзіла ім бессаромна абвінавачваць пісьменніка ледзь не ў здрадзе сацыялізму, у адсутнасці савецкага патрыятызму, нават у тым, што ён — франтавік! — не ведае рэалій вайны!..

Сёння тыя, каму напамінаюць пра іх пазіцыю ў шасцідзесятыя гады, калі па ўсіх лініях ішоў адыход ад XX і XXII з'ездаў партыі, дужа крыўдзяцца. Крыўдзяцца таму, што прывыклі заўсёды лічыцца прагрэсістамі, прывыклі на ўсіх паваротах сядзець у прэзідыумах

(Заканчэнне на стар. 15).

## КРЫТЫКА, БІБЛІЯГРАФІЯ

# ПАЗІЦЫЯ? ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ!

**Віктар Каваленка. Покліч жыцця. Літаратурная крытыка. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.**

ЛЕПШАГА спадарожніка на шляху кампетэнтнай крытыкі і аўтарытэтнага літаратуразнаўства, чым Віктар Каваленка, і жадаць не трэба. І ў акадэмічнай навуцы, і ў мастацкай прозе ён даказаў, што здольны на многае: акрамя шэрагу грунтоўных навуковых прац, напісаў цікавы, праўдзівы раман «Падвышанае неба». Словам, творчая індывідуальнасць крытыка і прывабная, і сімпатычная. Яго мастакоўскі талент добра ўзбагаціў, сагрэў талент даследчыка. Каваленка — разумна незалежны і абыходлівы з мастацкімі творамі. Чым, скажыце, можна замяніць гэтыя якасці? А нічым.

Колькі ўжо даводзілася чытаць рэцэнзій, артыкулаў, кніг «чыстых крытыкаў», якія, на думку Алеся Адамовіча, могуць быць і добрымі, паважанымі даследчыкамі літаратуры, але трохі... векавухі ў справе літаратуры. Судзяць катэгарычна, строга, а самі нічога не сперажылі. На жаль, такія ёсць і ў нас...

Мне думаецца, што прынцыповая дабрыня, чалавечнасць, псіхалагічны і сацыяльны вопыт Каваленкі — асноўнае ў яго пазіцыі. Гэта якраз і дазваляе яму згаджацца або спрачацца з пісьменнікамі. «Сапраўдным святам душы для крытыка, — сцвярджае В. Каваленка, — можа быць толькі глыбокая і палымяная размова пра жыццё — у саюзе з пісьменнікам, а часам у спрэчцы з ім».

Давайце ж прыглядзімся, як прытрымліваецца В. Каваленка прынцыпу тактоўнасці ў сваёй новай кнізе «Покліч жыцця». Адразу скажу, што сутнасць яе не ў тым, каб пісьменнікі тут жа, імгненна, пачалі выпраўляць свае памылкі і промахі, а ў прафілактыцы літаратурна-навуковага траўматызму. У В. Каваленкі да літаратараў, як у доктара да сваіх пацыентаў, няма манапольнага права на любоў і ўзаемнасць. З крытыкам знойдзецца каму паспрачацца (напрыклад, Дзмітрыю Бугаёву, Яўгену Лецку). Але ў карэктнасці Каваленку не адмовіш.

«Покліч жыцця» — гэта каваленкаўская стыхія, каваленкаўская прыродная інтанацыя. Падзеленая на тры часткі («Рух жыцця і свет чалавека», «Неаслабная сіла памяці вайны», «Арыенціры крытыкі») кніга дае мажлівасць, надта не блукаючы ў славесных лабірынтах, даведацца пра вартыя ўвагі творы.

Што пры чытанні гэтай кнігі адбываецца? Спакваля, паволі, развіваецца густ. Маральнае чуццё становіцца цвярдзейшым. Абвастраецца твой імунітэт да фальшу. Асабліва да таго фальшу, які нахабна намякае, што ён паходзіць ад мудрасці народнай, ад мастацкай праўды.

Пры ўсім тым Каваленка не чытае лекцыю. І ўзварушальнікам літаратурных асноў крытыка не назавеш. А вось яго кампетэнтнай думкі, безумоўнага аўтарытэту неяк спакойна прытрымліваешся, бо відавочна ўпэўніваешся, што прыйшоў да цябе ўдумлівы, цярплівы і абачлівы дарадчык, таварыш, сябра. Каваленку можна верыць, на Каваленку можна спадзявацца. Чаму? Ды таму, што ведаеш дакладна: ён не саб'е цябе з толку, не дазволіць ні сабе, ні табе заплываць у містычныя віры, заносіцца ў тэарэтычныя вышыні.

Нялёгка, ох як нялёгка бывае выказаць сутнасць нават невялічкага твора! Верша, напрыклад. Я памятаю, аднойчы неяк міжволі разгубілася (і, мабыць, не толькі адна я), калі ў салідным часопісе прачытала вось такую трактоўку добра знаёмага, хрэстаматыйнага верша «Я вас любил». Паслухайце: «Пушкинское «Я вас любил так искренно, так нежно, как дай вам бог любимой быть другим» — это вербализованная антиномия любви-эроса и любви-харитас». Магчыма, гэтая «вербализованная антиномия» па-навуковаму ўсё тлумачыць правільна. Але навошта такое мудраванне вакол паэзіі, навошта напускаць такі тэрміналагічны туман на яе?

Здараецца, што і Каваленка выкарыстоўвае розныя прыёмы і сродкі, каб паказаць пісьменніка больш значным, чым ёсць ён на самай справе. Я, прызнацца, не чакала, што крытык у артыкуле «Смутныя колеры вайны» раптам узніме на класічныя вышыні Івана Навуменку. Прыпісаўшы празаіку думку, што на вайне «дырыжор» быццам ёсць і быццам яго няма, што тут выпадак і непазбежнасць праяўляюцца часам без узаемазалежнасці, Каваленка пытаецца: «Але хіба не над такімі з'явамі вайны білася думка геніяльнага Л. Талстога?» Шматзначная паралель, ці не так?

Самых добрых адносін заслугоўвае проза Навуменкі. Але гэта ўжо цэлы паток у нашай літаратуры. Куды ж ён імчыць? Якія пеpакаты, заломы перашкаджаюць яго свабоднай плыні? Вось на гэтыя пытанні варта было б адказаць. Хачу думаць, што да паліятыву крытык звяртаецца неўсвядомлена.

Дарэчы, В. Каваленка піша не толькі сур'ёзныя артыкулы, даследаванні. Штодзённая практыка вымагае і чарнавой працы, якой ён, — доктар філалагічных навук, дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, — на шчасце, не грэбуе. Час ад часу выступае ў нашым крытычным цэху з санітарна-аздараўленчай мэтай, а то і проста з папулярызатарскім клопатам. У літаратурна-грамадскім раскладзе роляў такое «амплуа» крытыка Каваленкі нячастае, але ўжо звычайнае. Шаноўны пісьменнік пры фартушку, з квачом ды клеем для рэкламы? А можа, ён якраз цяпер, не грэбуючы ў душы «вузкімі задачамі», выношвае і рыхтуе з чытачом значную і святочную па задуме сустрэчу? На такое вельмі спадзяешся. Пры выкананні падобных дзелавых абавязкаў мы і сустракаемся з Каваленкам у кнізе.

Крытык за тое, каб з культурнага жыцця не выпадалі няхай сабе і меней дасканалыя кнігі, аўтары якіх (воляй лёсу або з-за нашай крытычнай неразварушлівасці) знаходзяцца сёння на перыферыі грамадскай зацікаўленасці. Але заслугоўваюць увагі. Насуперак цяперашнім чытацкім прыхільнасцям і ўстаноўкам ён як бы «між іншым» піша пра пазітыўны пачатак у творчасці Міхася Кацюшэнкі («Дні, якіх многа»), Алеся Рыбака («Добры засеў— заўсёды твой»), пра аўтабіяграфічную прозу беларускага літаратуразнаўцы (на жаль, заўчасна памёршага) Навума Перкіна («Шляхі барацьбы, выпакутаваныя народам»), пра даследаванні прафесара Фёдара Куляшова («Пра шлях у творчы подзвіг»).

Артыкулы гэтыя, на першы погляд, выглядаюць простымі, сціплымі, лапідарнымі. І ўсё ж сваё грамадска-прафесійнае прызначэнне яны выконваюць: інфармуюць, папулярызуюць, нясуць духоўныя ідэі.

Дакладнае вызначэнне творча-пошукавых кірункаў гэтых пісьменнікаў дае крытыку ледзь не універсальны «педагагічны» падыход да спасціжэння своеасаблівасці аналізуемых твораў, іх ролі ў літаратуры. Каваленка адразу прыкмячае, да якой творчай супольнасці належыць пісьменнік, а гэта дапамагае шмат што раскрыць і ў самога творцы, і ў характары духоўна-культурнай сітуацыі сённяшняга дня. І тут важна, што годны спакой спецыяліста крытык захоўвае галоўным чынам не перад чытачом, не перад пісьменнікам, а перад ісцінай.

Скажам, яшчэ не абароненага бранёй надзейнай рэкламы і шчытом афіцыйнага прызнання пісьменніка Міхася Кацюшэнку хто-небудзь з крытыкаў мог бы крытыкаваць і крытыкаваць. За стылёвую неахайнасць, напрыклад. Не выходзіць з памяці слова, што з'яўлялася без патрэбы па дзесятку разоў на старонках яго кнігі «Дні, як усе іншыя»: «...я па рыбалцы **страшэнна** занудзіўся», «...ён **страшэнна** мучыўся два дні», «...мы сядзелі **страшэнна** скурчаныя», «...яму **страшэнна** захацелася», «...Міцька **страшэнна** надуваў шчокі...»

Але Каваленка ўгледзеў шырэйшую і глыбейшую перспектыву пошукаў празаіка, не стаў на пазіцыю крытычнага фармалізму. У інтарэсах ісціны крытык узвысіўся над уласцівай яму ж прафесійнай патрабавальнасцю. Такая педагагічная прадбачлівасць, тактоўнасць мне асабіста вельмі імпануюць.

Трэба падкрэсліць, што і тэматычна-праблемны дыяпазон кнігі «Покліч жыцця» цікавы. Неаднойчы пісалі ўжо пра А. Адамовіча, У. Караткевіча, І. Навуменку, Я. Сіпакова, І. Шамякіна. Напісаў і Каваленка. Ён змясціў творы гэтых пісьменнікаў у шчыльную атмасферу грамадскіх, эстэтычных і духоўных інтарэсаў, дзе творы адкрыліся новымі, нечаканымі гранямі, новымі сэнсавымі адценнямі, больш глыбокай ідэйнай сутнасцю («Чорныя бездані слабых душ», «Вайна і мір: лёс народа і літаратуры», «Аблічча мінулага: праўда і вымысел», «Смутныя колеры вайны», «Іскры над попелам», «Чалавек у рэвалюцыі»).

Наша беларуская і савецкая проза, напрыклад, яшчэ недастаткова паказала атрутныя вытокі фашызму. Можа, такая задача лічылася вузкапубліцыстычнай, можа, малапаважанай. Але Каваленка настойліва прасачыў у «Карніках» Адамовіча тую мяжу болю і пакут, фізічных і маральных выпрабаванняў, дзе «можа пачацца маральнае і духоўнае падзенне чалавека». Вывад быў цвёрды і не двухсэнсоўны: «Упершыню, бадай, у савецкай літаратуры пра вайну А. Адамовіч асмеліўся пранікнуць у лабараторыю чорнай душы здрадніцтва. Знешне шляхі да яго былі рознымі, але ў аснове кожнага з іх праглядалася, па сутнасці, адна ўнутраная аснова — неразуменне каштоўнасці чалавечага жыцця, адмаўленне ад гуманізму дзеля эгаістычных выгад ці пад пагрозай смерці. Усё гэта падыходзіла для фашыстаў, бо для іх важны быў вынік — паслухмянасць»...

Ствараючы ўражліва аб'ектыўныя малюнкі стану літаратурна-крытычнай думкі ў рэспубліцы, В. Каваленка з павагай выказаўся і пра рускіх крытыкаў Л. Лазарава і Ю. Сураўцава («Бой, кожны раз новы», «Вернасць тэме»). Л. Лазараў першы напісаў крытыка-манаграфічную кнігу пра творчасць Васіля Быкава. Ю. Сураўцаў — пра эстэтычныя ўзаемаадносіны нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў савецкай літаратуры.

Хацелася б адзначыць і багацце творчай індывідуальнасці крытыка, яркую публіцыстычнасць яго слова. Ён цытуе не толькі навуковыя і крытычныя працы, што маюць дачыненне да праблематыкі, а прыводзіць таксама паэтычныя радкі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Пімена Панчанкі, Максіма Танка і іншых паэтаў. Прыемна, што такая дапытлівая і шматстайная думка крытыка. Можа, — у ідэале — яна імкнецца стаць фактам літаратуры, як добрая проза, паэзія ці драматургія.

Шкада толькі, што там-сям у кнізе сустракаюцца фармальныя выказванні, мастацкія творы ацэньваюцца агулам, на падставе павярхоўнага адчування. Толькі знешняе ўражанне глыбіні думкі і прафесіяналізму ствараюць, напрыклад, пералічэнні, накшталт: «Жыццёвы канфлікт пакладзены ў аснову аповесці В. Блакіта «Шануй імя сваё». Неблагія творы пра пасляваенную вёску напісалі А. Рыбак і Н. Маеўская. Некаторыя рэальныя праблемы сучаснай вёскі закрануты ў аповесці Я. Радкевіча «Па песні ў Агародніке».

Жыццёвы канфлікт, неблагія творы, некаторыя праблемы... Ненадзейныя гэта, прывідна-крытычныя абстракцыі. Аналізам іх не назавеш.

У па-сапраўднаму навуковым, важкім па канцэпцыі і доказным у аргументацыі артыкуле пра крытыку і яе арыенціры «Час абавязвае» Каваленка чамусьці пералічвае адны толькі... мужчынскія імёны. Што за патрыярхат?! А дзе ж падзеліся жанкі-крытыкі? Няўжо яны не ўносяць сваю лепту ў развіццё крытычнай і літаратуразнаўчай думкі?

Неабходнае і зайздроснае ў сучасным літаратуразнаўстве імкненне В. Каваленкі ва ўсім бачыць выяўленне заканамернасці і няўхільнай мастацкай перспектывы часам з вартасці ператвараецца ў сваю супрацьлегласць. Зніжае, на мой погляд, напружанасць і вастрыню пошукавай думкі камплімент Адамовічу на самым пачатку артыкула «Вайна і мір: лёс народа і літаратуры». Новую кнігу Адамовіча «Вайна і вёска ў сучаснай літаратуры» Каваленка называе кнігай «**выдатнага** беларускага крытыка, літаратуразнаўцы і празаіка». Рэпутацыя Адамовіча сапраўды высокая. Але крытык павінен быць свабодным ад гіпнозу папулярнасці, абранага ім імя (асабліва на пачатку аналізу). Стрыманы, засяроджаны тон больш спрыяе кваліфікаванаму разбору твора.

Завышана ацэнка і аўтабіяграфічнай аповесці Н. Перкіна «Я стаў партызанам». Яна «...зойме вартае месца ў савецкай літаратуры», — сцвярджае крытык. Кніга, на жаль, шмат па якіх прычынах не стала фактам жыцця і літаратуры, не атрымала належнага рэзанансу нават у нас, у Беларусі, на радзіме пісьменніка...

На полі газетна-часопісных бітваў вострыя і аператыўныя артыкулы Каваленкі робяць сваю справу. А вось маралізатарскія падыходы крытыка да літаратуры ў прынцыпе ацэньваеш невысока. Іранічную ўсмешку выклікае павучанне з артыкула «Сучаснасць і літаратура: герой, ідэйнасць майстэрства»: «Асаблівую ўвагу, мне здаецца, маладзейшыя пісьменнікі **павінны звярнуць** (падкрэслена мною. — **С. М.**). вось на якія словы А. Адамовіча з артыкула «Ці трэба баяцца «чужых» класікаў»: «І праблема для нас не новая і спрэчкі. У 50—60-я гады вакол гэтага яшчэ якія страсці закіпалі».

Так. І праблемы не новыя, і спрэчкі. Але, можа, варта задумацца: чаму гэтыя «маладзейшыя» стаічна маўчалі і не прынялі ўдзел у гаворцы, распачатай Адамовічам ва ўсесаюзным друку, хаця «публічнае высвятленне адносін» успыхвала на пісьменніцкіх сходах у СП БССР.

Разумею, у працэсе пазнання і выказвання важна, каб даследчык меў свой творчы почырк. В. Каваленка даследуе, разважае і выказваецца так, як выказваецца. Нават не прэтэндуючы, бывае, на стылёва-славесную арыгінальнасць. Слова «ўнутраны», напрыклад, у тэксце кнігі, да месца і не да месца, мільгае то тут, то там: унутранае задавальненне, унутраны голас, унутраны покліч, унутраная стрыманасць, унутранае развіццё, унутранае прызначэнне, унутраная сутнасць...

Але важна, паўтараю, што крытык выказваецца па-свойму, нават не прэтэндуючы часам і на навуковую вызначальнасць, беспамылковасць. Галоўнае ўсё-такі, што ён перадае характэрныя рысы літаратурнага жыцця. А без іх немагчыма тыпізацыя. Сапраўдная. Навуковая. Зазначу, што ўсе гэтыя «хібы» не закранаюць метадалагічны змест кнігі, грунтуюцца толькі на асобных выдатках рабочай захопленасці аўтара.

Пэўна адчуваю, што колькасць чытачоў кнігі «Покліч жыцця» будзе залежаць не толькі ад яе сумленнага сацыяльна-філасофскага і эстэтычнага аналізу, яе спрэчных мясцін, але і ад актыўнасці альбо інертнасці інтэлектуальнага жыцця ў рэспубліцы. І варта падкрэсліць, што сама гэтая кніга, напісаная з пазіцыі сумлення, мае непасрэдныя адносіны да ажыўлення настойлівых творчых пошукаў.

Святлана МАРЧАНКА.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### ПЕРШЫХ ПЯЦЬСОТ

чытачоў з усяго Савецкага Саюза займела бібліятэка Дома творчасці пісьменнікаў «Іслач». Юбілейным чытачом стаў малады перакладчык студэнт Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага І. Навіцкі.

— У гэтую першую палову тысячы, — сказала мне бібліятэкарка Л. Лявіцкая, — ужо ўвайшлі нашы госці М. Чабатар з Малдавіі, М. Чалы з Украіны, В. Пятроў з Чувашыі і іншыя. І, вядома, свае, беларускія пісьменнікі.

Цяпер у бібліятэцы — каля 4000 кніг, ёсць многія газеты і часопісы.

В. ДАЛІДОВІЧ,
студэнт БДУ імя У. І. Леніна.

### САБРАЛІСЯ ФАНТАСТЫ

Польскі часопіс «Фантастыка» правёў у Варшаве міжнародную канферэнцыю па праблемах сучаснай навукова-фантастычнай літаратуры. У ёй прынялі ўдзел пісьменнікі Балгарыі, Венгрыі, Польшчы, Румыніі, Чэхаславакіі. Нашу краіну прадстаўлялі А. Шалімаў (Ленінград) і У. Шыцік. У дні канферэнцыі савецкія пісьменнікі сустрэліся ў Доме польска-савецкай дружбы з чытачамі.

В. МІКАЛАЕНЯ.

### УЗНАГАРОДЫ ФОНДУ МІРУ

Бюро Беларускага аддзялення Савецкага фонду міру падвяло вынікі асвятлення ў друку, па радыё і тэлебачанні дзейнасці фонду ў рэспубліцы за 1987 год. Рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва» поруч з іншымі ўзнагароджана Ганаровай граматай.

## ВІНШУЕМ!



**Спаўняецца 80 гадоў вядомай даследчыцы беларускай літаратуры, заслужанаму дзеячу культуры БССР Ніне ВАТАЦЫ. Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР накіравала ёй прывітальны адрас з пажаданнем добрага здароўя, плёну на ніве беларускай культуры.**

**Супрацоўнікі «ЛіМа» таксама зычаць юбілярцы ўсяго найлепшага ў жыцці, новых поспехаў на карысць нашай літаратуры, нашай культуры.**

## КНІГАПІС

П. КАВАЛЁЎ. Выбранае. Аповесці, апавяданні. Для сярэдняга школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1988.

**У творах Паўла Кавалёва, якія ўвайшлі ў аднатомнік яго выбранага, расказваецца пра жыццё дзяцей і юнакоў у розныя гады. Аповесць «Чырвоны лядок», напрыклад, вяртае да падзей, звязаных з калектывізацыяй. «Казік, Уладзік і іншыя» — яшчэ адна старонка з летапісу барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Героі аповесцяў «Лёнька Гром» і «Спытай сябе, Аніська» — падлеткі, што шукаюць у жыцці сваю сцяжыну. Разнатэмныя і апавяданні.**

**Прадмову «На хвалі даверу і любові» напісала М. Яфімава.**



Г. ПАШКОЎ. Крокі. Вершы, паэма. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

**Змест кнігі Генадзя Пашкова «Крокі», якая папоўніла серыю «Бібліятэка беларускай паэзіі», склалі паэма «Дзяўчынка з блакітным мячыкам», а таксама лепшыя вершы з папярэдніх зборнікаў аўтара.**



ГАЛОЎНЫ ЭКЗАМЕН. Рэпертуарны зборнік. Серыя «Тэатр юнага гледача». Для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1987.

**Зборнік «Галоўны экзамен», складзены Нінай Загорскай, адрасуецца ўдзельнікам школьнай мастацкай самадзейнасці.**

## ДЗВЕ ДУМКІ

**Творчасць Васіля Зуёнка добра вядома шырокаму колу чытачоў. Асаблівы розгалас атрымалі яго паэмы «Маўчанне травы» і «Лукам'е», якія сталі не толькі значным крокам наперад у творчасці самога паэта, але і сур'ёзным здабыткам усёй нашай літаратуры. Не дзіва, што новая кніга паэта «ВЫЗНАЧЭННЕ» (Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987) выклікала асаблівa пільную ўвагу крытыкі. Рэдакцыя прапануе ўвазе чытачоў дзве думкі пра гэты зборнік.**

# Паэзія — жыццё паэта

ГОРКІ запіс Аляксандра Блока ў дзённіку: мне не трэба больш пісаць вершы, я надта добра ўмею гэта рабіць...

Не здзіўлюся, калі такое адчуванне ахоплівае часам і Васіля Зуёнка, як і кожнага сталага паэта. Таму што на адпаведным узроўні маштабнасці, светаразумення і майстэрства ён дасягнуў таго рубяжа, за якім вялікае ўменне з вялікага дабра ператвараецца ў сваю процілегласць, і ўзнікае такое драматычнае становішча, калі аднолькава добра пішуцца і добрыя, і благія вершы.

На мой погляд, адна з найвялікшых бед усіх паэтаў (не паэзіі, якая заўсёды роўная сама сабе), асабліва — айчынных і асабліва — сённяшніх у тым, што яны пішуць **вершамі** і там, дзе рабіць гэтага проста не трэба, дзе можна было б ужыць іншыя сродкі, матэрыял больш танны. Калі «рэдказямельны» элемент паэзіі, які павінен ісці выключна на лірыку, выкарыстоўваецца не па прызначэнні, то, зразумела, размова можа ісці толькі аб заменніках, і тады знікае само паняцце паэзіі. Мне, напрыклад, калісьці вельмі падабаліся вершы маладога Я. Еўтушэнкі, а цяпер я іх проста не чытаю. Не магу. Сёння паэт сродкамі паэзіі вырашае публіцыстычныя задачы. Я магу згаджацца ці не згаджацца з яго грамадзянскай пазіцыяй, але пры чым тут рыфмаванне, навошта яно? Пакладзі перад сабой ліст чыстай паперы і, пакінуўшы злева поле, паслядоўна выкладай свае думкі — не будзе ніякага падману, не будзе псавацца густ чытача, які ў большасці верыць, што калі зарыфмавана, дык гэта і ёсць паэзія.

Гэтая бяда не абмінула і творчасць В. Зуёнка — асабліва ў амерыканскім сшытку. У «Вызначэнні» ёсць шмат вершаў, пісаць якія ў рыфму было зусім неабавязкова. Ну вось, скажам, «Зязюля, сівая «зегзіца». 11 строф, 44 радкі, у якіх і радаслоўная слова ўва ўсіх славянскіх мовах, і паводзіны птушкі, і легенда пра яе песню і г. д. Прафесійна верш зроблены проста выдатна, ён **чытаецца**, але ў тым якраз і драма, бо для паэзіі, якой мы ўсе ў меру дадзенага нам служым, гэта горш, чым калі б верш быў напісаны кепска. Таму што адбываецца **падмена** паэзіі яе падабенствам, тая падмена, якую выкрыць цяжэй за ўсё. А чаму б, думаю, калі ёсць жаданне напісаць пра зязюлю, не ўкласці думкі пра яе ў якое-небудзь даследаванне, у эсэ ці што, і не прапанаваць яго, скажам, «Роднай прыродзе»?.. Я не жартую, сучаснага чалавека цікавіць усё ў свеце жывёл і птушак, а калі ты збіраешся даць чытачу сапраўды свежую інфармацыю, дык з чаго ты ўзяў, што нястача такой інфармацыі, памножаная на рыфму, забяспечыць цікавасць да верша?..

Паэзія — не столькі **вершы**, колькі **жыццё** паэта, а ў жыцці бывае, што маўчанне каштуе даражэй нават за добрае слова. Маўчанне — таксама паэтычны жанр...

Возьмем, напрыклад, вершы з замежнай камандзіроўкі. Я хацеў бы, як чытач, каб гэта былі сапраўды **вершы, а не тое**, што па традыцыі прывозяць нам з пасяджэнняў ААН — нешта накшталт фінансавай справаздачы пэўнай установе. Вершы В. Зуёнка ў гэтым сэнсе не адрозніваюцца ад тых, што мы чыталі раней. Уласна кажучы, гэта не вершы, а іменна вершаваная публіцыстыка. Я і стаўлюся да яе як да публіцыстычнага выступлення, г. зн. звяртаю ўвагу выключна на змест, знаходзячы ў ім вельмі многа спрэчных момантаў. Скажам, паэт спачувае «Бярозкам на Чацвёртай авеню» і нават запрашае іх: «Злязайце да мяне! Змяцём брыду.—Я вас у гай пад Начай завяду...» А ў вершы «Дзяцінства бор», што змешчаны перад гэтым, ён сумуе аб горкім лёсе, мабыць, таго ж гаю пад Начай:

**Дзяцінства бор — прыходзіць толькі ў сне...**<br>
**Бяскрыла спачувае наваколле**<br>
**Апошняй старадрэвіне-сасне.**<br>
**Лясіна не даклічацца лясіны,**<br>
**І воды адышлі ад каранёў,**<br>
**На салаўя сарока вучыць сына,**<br>
**І шастае па гнёздах вараннё...**

Усё паэту не даспадобы ў краіне, найбольш з'едлівыя публіцысты якой, са свайго боку, лічаць нас «Імперыяй зла», але болей за ўсё гнявіць яго адзін толькі напамін, адно толькі слова «плюралізм». У вершы «Аб сімвалах» гэта слова рыфмуецца нават з «блюдаліз». Між тым у артыкуле В. Канавалава «Адкрыццё Чаянава» («Комсомольская правда», 29. 01. 1988 г.) гаворыцца: «Вельмі хутка пасля смерці Леніна многагалоссе ў палітыцы, эканоміцы, мастацтве стала раздражняць. Аднагалоссе — вось што стала законам». «Многагалоссе» — гэта і ёсць той самы плюралізм, без якога немагчыма нармальнае жыццё грамадства і пра які мы ўсё часцей згадваем.

Не падабаецца паэту нават тое, што ўся Амерыка бегае. Бегае яна, аказваецца, з нядобрай мэтай: «Мільгаюць ногі-спіцы, ідзе зацяты крос: усім патрэбен біцэпс — біць канкурэнту ў нос...» Ах, гэта жахлівая канкурэнцыя!.. Хіба не яе адсутнасць абумовіла наша адставанне, напрыклад, у камп'ютэрызацыі? Хіба не стала здаровая сацыялістычная **канкурэнцыя** настойлівым патрабаваннем дня?.. Ды і не ў тым нават справа. Вось бяжыць па парку амерыканец. Клерк. Чалавек. Дык чаму не парадавацца, што ён клапоціцца аб сваім здароўі? Чаго так раздражняцца?.. Мы моцна працверазелі за апошнія тры гады, і ў такім шчаслівым стане цяжкавата чытаць амерыканскі сшытак В. Зуёнка. Дрэнная палітыка, прадузятасць, апрыёрнасць — ледзь не ў кожным радку гэтага цыкла...

Так, хоць сам па сабе радок — выдатны!..

Ён застаецца такім і тады, калі сталы паэт раптам упадае ў маралізатарства («Цяпер усе, як паэты...», «Удача»), і калі паўтараецца, нібы перапісвае сам сябе («Апошняя ў лагеры змена — як верасня блізкі сіг-

# «Перад судом галоўным...»

ЧАГО трэба асцерагацца ў паэзіі і ўвогуле ў літаратуры, дык гэта хады на месцы. Ёсць такое паняцце ў страявым воінскім статуце. А вельмі ж часта яно стасуецца і да творчасці, і да творцаў. Памятаючы гэта, заўсёды з якойсьці бояззю адкрываеш новую кнігу паэта, нават таго, якому даўно паверыў. Хай сабе будуць і некаторыя збоі, думаеш ты, толькі б была хада наперад, новы рух, новы тэмп. Бо паэзія, як неаднойчы сцвярджалася,— гэта жыццё (тое самае сцвярджае ў сваёй новай кнізе і В. Зуёнак). А жыццё, як вядома, нават і ў застойныя часы не стаіць на месцы.

«Вызначэнне», мне здаецца, вельмі дакладная, больш таго адказная назва для кнігі. Вызначэнне магістральнай дарогі ў паэзіі, магістральнай думкі, а таксама і магістральнай тэмы павінна турбаваць паэта ад кнігі да кнігі, нават ад верша да верша на працягу ўсёй творчай біяграфіі.

Згодна зачыннаму вершу ў новым зборніку Васіль Зуёнак шукае вызначэння наступных велічынь: «сутнасці», «пакут і слёз», «мужнасці», «нязломнасці», «няспыннасці», «Веры» і «Будучыні». Што ж яны такое, гэтыя велічыні? Часткова на гэта пытанне аўтар адказвае самім вершам. Але поўны адказ трэба шукаць ва ўсім змесце кнігі.

Паэт як быццам бы чэрпае з ранейшага радовішча, закранае тыя ж самыя пласты жыцця, якіх кранаўся і раней, аднак, робіць гэта сёння з большай мерай адказнасці, ён больш удумлівы, разважлівы і засяроджаны. Перш за ўсё ён адчувае сябе сынам і гаспадаром зямлі, ён ідзе па зямлі са сваім болем, трывогай і роспаччу. І адказнасць, і віну сваю не перакладвае на плечы іншых, а нясе іх у сваім сэрцы:

**Перад судом галоўным,**<br>
**Перад вялікаю стратай**<br>
**Не называю віноўных,**<br>
**Бо знаю: я вінаваты.**<br>
**Я вінаваты самы,**<br>
**Самы пагубца галоўны,**<br>
**Перад табою, хата,**<br>
**Што засталася бясслоўнай.**<br>
**Перад табою, мова,**<br>
**Перад табою, мама,**<br>
**Я не зберог ваша слова,**<br>
**Я — вінаваты самы.**

Адчуваю пярэчанне: няўжо герой верша так ужо ва ўсім і вінаваты? А іншыя? Згодзен. Але калі паэт гаворыць ад свайго імя, ён адначасова гаворыць і ад імя кожнага свядомага грамадзяніна Айчыны. Вядома, сцвярджаючы ўсё добрае і чалавечае і адмаўляючы ўсё нікчэмнае і пачварнае, ён заўсёды абапіраецца на сваё грамадзянскае сумленне, падмацоўваючы яго жыццёвым вопытам.

Сваё вызначэнне чалавечай веры і вернасці В. Зуёнак шукае не толькі ў дні сённяшнім, але і ў часе мінулым, «у слове і памяці роднай зямлі». Праўда, вершаў гістарычнага плана ў кнізе мала. Па сіле эмацыянальнага напалу і перакананасці найбольш значны з іх «Развітанне з Каліноўскім». Гэта страсны і мужны маналог нязломнага змагара, узноўлены ўяўленнем аўтара:

**Шляхі не купляюць за пяць капеек —**<br>
**Бяруць іх жыццём сваім.**<br>
**Бунт не на плошчы — у сэрцы спее**<br>
**І памірае ў ім.**<br>
**Пакуль застаецца з нашага стану**<br>
**Хоць бы адзін жывы,**<br>
**То не лічыце справу прайгранай.**<br>
**Народ прад'явіць правы.**

Васіль Зуёнак надзвычай уважлівы да чалавека працы, простага селяніна да яго турбот. Праз яго лёс бачыцца паэту і свой лёс, сутнасць якога — спрадвечная праца ў імя руху наперад, у імя жыцця. Вельмі кранае ў гэтым сэнсе верш «Песня вечнага аратага». Нязмушана, меладычна, пачуццёва-раскавана ліецца метафарычны радок паэта і завяршаецца лёгкім акордам фальклорнага песеннага ладу:

**Баразной — грак панылы,**<br>
**Нібы лёс мой — з падлётам:**<br>
**Неба ўзняў бы на крылах,**<br>
**Ды не мае ахвоты...**

**Так і скача надозір**<br>
**Па разорах суглею...**<br>
**А ўжо ноч на парозе —**<br>
**Хутка сонца датлее...**

**Поўня дзень мой надточыць,**<br>
**Каб адолець аблогу...**<br>
**Ары, ары, мой канёчак,**<br>
**Да апошняга ўпрогу...**

Трохі ў іншым плане апаэтызавана праца ў вершы «Аб мазалях». Бянтэжыць, праўда, крыху яго натуралістычны пачатак. Затое тут аўтар удала выкарыстоўвае звыклы, але не часты прыём у паэзіі, калі абыгрываецца ў многазначэннях адно толькі слова, у дадзеным выпадку — «мазоль». У вершы В. Зуёнак умела выкарыстоўвае дасціпныя народныя выслоўі, гумар і зусім нечакана прыходзіць да сур'ёзнай высновы:

**Гэта працы вузлы, багацце**<br>
**Найчаснейшае на зямлі.**

Неяк абыякава перагарнуў

нал...» — а праз адну ўсяго старонку «Апошнія верасня ласкі, як загадзя дар за імглу...»), і калі піша празаічных 60-радковых «Дзетдомаўцаў», і ў рытарычнай «Нашай Перамозе»... Усюды бачыцца адна і тая ж цвёрдая ўпэўненая рука, але ад яе ўвесь час чакаецца лепшае.

Але вось нарэшце я пазнаю таго В. Зуёнка, чыё «Крэсіва» рэцэнзаваў і вітаў калісьці. Каб адчуць сілу электрычнага току, дастаткова ўсяго адзін раз дакрануцца да аголенага провада. Цаню ў паэзіі Яго Вялікасць Радок, і, напрыклад, лічу Цютчава вострасацыяльным паэтам толькі за тое, што ён у адным радку сказаў пра Расію калі не ўсё, дык галоўнае: «Здесь человек лишь снится сам себе». З гэткім жа пачуццём чытаю ў В. Зуёнка ў «Развітанні Каліноўскага»:

**Адно толькі знаю: бог нас**
**пакінуў.**
**Страшней пятлі і турмы,**
**Калі мы ўсё яшчэ не краіна:**
**То край, то ўскраіна мы.**

Два апошнія радкі — уся горыч бездзяржаўнага быцця цэлага народа... Можна жыць, існаваць, карміцца, кахаць, нараджаць дзяцей, але чалавек пачынаецца з таго, што задаецца пытаннем: хто я, якой я дзяржавы, краіны?.. Калі ў вершы пра Амерыку «біцэпс — біць» як дэманстрацыя паэтычных мускулаў застаецца па-за межамі верша, дык тут, у сапраўды балючым і сапраўды вершы, тройчы паўторанае «кр» урастае ў радкі арганічна, як зубное скрыгатанне...

Набыткі паэта — уменне, майстэрства; страты — там, дзе яно выдаткоўваецца на прадмет па сутнасці сваёй празаічны. Зноў скажу: «Кветкі 41-га года», прысвечаныя выстаўцы карцін украінскай мастачкі-самавучкі Кацярыны Белакур, маглі б быць добрым артыкулам з той выстаўкі, рэпартажам. Ды і ўвогуле нікому яшчэ, па-мойму, не ўдаваліся вершы пра якое б ні было мастацтва. У вершы непазбежна блякнуць фарбы, якія ўжо нанесены на палатно. А побач, на наступнай старонцы, — жывыя фарбы ў вершы «Дарогаю Македоніі»:

**...З падстрэшшаў — струкі**
**Ледзяшамі гарачымі...**
**Гармонія светлых гронак...**
**Філасофія тытуню...**
**Перцу чырвоны крык**
**з жоўтымі падгалоскамі**
**(выдатна! — Ф. Я)...**
**А паміж небам і паміж зямлёй,**
**Як паміж сном і рэальнасцю, —**
**Горы**
**З абвалам каменнай памяці:**
**У алкаголь забойства,**
**У дым папялішчаў,**
**У маўчанне чырвонай крыві.**

Тая ж самая думка, што і ў «Кветках 41-га года»: несумяшчальнасць міру і вайны, чырвонага перцу і чырвонай крыві, нават тытунёвага дыму нетаропкай сялянскай размовы — з дымам папялішчаў. Але там думка **выказваецца**, а тут — **паказваецца**, тут яе можна ўбачыць, там—словы, тут—вобраз.

Вось на такіх кантрастах будуецца паэтыка «Вызначэння». Кожны можа напісаць «Здаецца, што ўсё напачатку: шляхі і жыцця далягляд, ды час прыплюснуў пячатку: вяртання няма назад...», але далёка не кожны дакладна тую ж думку ўмясціць вось у такое афарыстычнае васьмірадкоўе:

**У часе сваім ляціш —**
**Не вернешся і не пакінеш.**
**У часе сваім сядзіш,**
**Як птушанё ў шкарлупіне.**
**Мільгаюць: май, лістапад —**
**Язда ў нерухомым вагоне.**
**Няма вяртання назад,**
**І будучыню не дагоніш...**

Гэта глыбей і пакутлівей — немагчымасць выканаць два самыя гарачыя, трапяткія жаданні кожнага: вярнуцца ў мінулае і зазірнуць у будучыню... І сапраўды «язда ў нерухомым вагоне»: ён імчыцца, а ты гэтага не бачыш, перад вачыма ўсё адно і тое ж...

І нарэшце — лепшае, верш, які хочацца перачытваць.

**А гара з гарой —**
**Не бяда з бядой...**

**Горы бачацца —**
**Ды не сыходзяцца,**

**Беды сослепу —**
**Гуртам водзяцца.**

**Горы хмурацца**
**Адлучоныя,**

**Беды журацца**
**Незлічоныя.**

Гэта нібы праспяваў сам народ. Гэта не паклон бядзе, а мужнасць яе пераадолення.

**Фёдар ЯФІМАЎ.**

---

я верш «Як ад лёсу, ад хат не ўцячы», што змешчаны ў пачатку зборніка, нават не звярнуў увагі на яго мужную і сцвярджальную канцоўку: «Пасля стрэсаў і рэвалюцый Мы да хат яшчэ мусім вярнуцца...» Але вярнуўся я да гэтага верша пасля таго, як прачытаў другі твор «Прыпар», адзначаны ў падзагалоўку «Баладай неперспектыўнай вёскі».

Тэма старой вёскі вар'іруецца ў нашай паэзіі не першы год, столькі, колькі існуе гэтая праблема. Не ведаю, хто з нас і абышоў яе сваёй увагай. Што ж запомнілася з таго, напісанага? Дзве-тры дэталі. І не больш. Верш Васіля Зуёнка напісаны верлібрам. Цікавая і нечаканая сама яго форма. Аўтар умоўна звяртаецца да памёршых вяскоўцаў, нават ушчувае іх: «Што ж гэта вы, Дзядзькі і цёткі, дзяды і бабкі, Прадзеды і прабабкі, — Хіба не бачыце, Як зарастае ў Полі дарога, Як зарастае поле сурэпкай...» Лепшых вясковых працаўнікоў дзядзьку Восіпа, дзядзьку Хведара, дзеда Захара і прапрадзеда Аўласа, бабку Хіму паэт падымае з вечнага сну і кліча на дапамогу вёсцы. І разам з тым, як паўстаюць перад вачыма постаці нябожчыкаўвяскоўцаў, узнікае і твар сённяшняй вёскі, якая задыхаецца ад працы, ад недахопу рабочых рук. Гучыць ці то суровы, ці то іранічны папрок мёртвым. Але мы разумеем, што гэта папрок не ім, а нам. Аўтарская трывога ўвесь час нарастае: «Калыханкі таксама знікаюць: На ўсю вёску — адзін унук, Ды і той падкінуты з горада...» І вось канцоўка:

**Што ж вы гэта,**
**Дзядзькі і цёткі,**
**Што ж вы гэта,**
**Дзяды і бабкі,**
**Што ж вы,**
**Прадзеды і прабабкі,—**
**Што ж вы, мёртвыя —**
**Сорам у прыпар**
**На тым свеце ляжаць і**
**лайдачыць.**
**Уставайце хутчэй!..**
**А потым —**
**Мы яшчэ раз па вас пагалосім.**

Магчыма, камусьці здасца і непрыдатным такое вырашэнне набалелай праблемы. Я ж схільны думаць, што гэта ўсё ж знаходка паэта, яго несумненная ўдача.

Што мне імпануе ў паэзіі В. Зуёнка, дык гэта розум і разважлівасць, якія амаль заўсёды мяжуюць з вострай публіцыстычнасцю. Прыкладам гэтага ў новай кнізе могуць служыць вершы, дзе на поўную моц гучыць трывога за экалагічны стан («Удача», «Кіслыя азёры») і за мірную будучыню планеты («Хто ў век боегаловак і ракет», «Зорная просьба»).

Хвалююць у зборніку і лірычныя вершы. З цёплай радасцю адчування прыроды, пачуцця кахання і ўзаемнасці. Назаву такія з іх, як «Начное вогнішча», «Амяла», «Дзяцінства бор», «Пісьмы», «Ліпнёвае».

Заключны раздзел кнігі, што мае назву «Пад ценем каменнага лесу», склалі вершы з амерыканскага блакнота.

Не ўсё падабаецца мне ў замежным цыкле В. Зуёнка. Але ёсць тут добрая ўдумлівая назіральнасць, адметныя дэталі, своеасаблівы гумар. У цэлым жа раздзел гэты патрабуе асобнай гаворкі, разгляду яго ў кантэксце ўсёй нашай паэзіі, звязанай з заакіянскімі ўражаннямі.

Бяруся сцвярджаць, што новая кніга Васілю Зуёнку ўдалася. Добра, што аўтар не задаволіўся ўжо аднойчы зробленым, а пайшоў далей у сваім пошуку.

**Казімір КАМЕЙША.**

---

НАШ КАЛЯНДАР

# ПРЫЦЯГНЕННЕ ЗЯМЛІ І ЛЮДЗЕЙ

*Дарыць радасць, душэўную шчодрасць і шчырасць — прызванне чалавека ўвогуле. Калі ж ты паэт, мастак — то гэтае прызванне набывае асаблівую вагу і значнасць.* Аўтар паэтычных зборнікаў «Тваім імем», «Барвы», «Лісце», «Шматпакутнік», «Творцы дабрыні», «Паэзія», «Сыноўняе», публіцыстычных і краязнаўчых кніг, шматлікіх артыкулаў і перакладаў з рускай, беларускай, чувашскай, балгарскай, нямецкай і іншых моў Станіслаў Рэп'ях не стамляецца здзіўляцца свету і чалавеку, прысягнуўшы аднойчы і назаўжды красе людской душы, як найлепшаму скарбу.

Улюбёны ў родны Прыдзяснянскі край, у чарнігаўскае Палессе, паэт імкнецца без *рыторыкі і мудрагельства* знітаваць адчуванне і разуменне сённяшняга дня з вопытам папярэднікаў, спалучаючы *малюнкі сучаснасці з глыбокімі* пластамі нацыянальнай культуры, з адметнасцямі традыцый продкаў, з іх верай у неўміручасць самога жыцця.

Лепшым творам паэта ўласцівы такія якасці, як арганічнасць, даходлівасць і знешняя прастата (хоць яму добра вядомы формы сусветнай паэтыкі: ён сам дае ўзоры і санета, і трыялета, і мініяцюры, і верлібра...), яснасць зместу і паўната пачуцця. Мне падабаецца адзін з яго «палескіх» вершаў, у якім прага чысціні, дасканаласці, прызнання сваёй зямлі ў вернасці выказана надзіва сціпла і разам з тым — вельмі даверліва, без дэкларацыйных, прамалінейна-лабавых «хадоў»:

**Над маёй галавой**
**Нахіляюцца летнія яблыні**
**І душу напаўняюць**
**Настоем цнатлівых пладоў.**
**Што за яблыні гэта!**
**Некранутыя, шчырыя,**
**светлыя,**
**Як дзяўчаты палескія.**
**Што выходзяць з сяла**
**ўпершыню!..**

Прыязджаючы на Чарнігаўшчыну — ведаю: мне не патрэбен экскурсавод, калі поруч будзе Станіслаў Рэп'ях. Тое, *што ведае ён пра свой край*, пра яго людзей, тое, як ён улюбёны ў іх — асобная тэма для вялікага апавядання, дзе абавязкова ў суседстве — і памяць пра слаўныя, часта трагічныя старонкі мінулага, і роздум пра дзень сённяшні, дзе складанае і супярэчлівае абавязкова ў сувязі з так уласцівым кожнаму ўкраінцу рамантычным успрыманнем свету, падфарбаваным у колеры вясёла-гумарыстычнага і аптымістычнага адчування сябе ў заўсёды няпростым і не заўсёды святочным ды гарманічным свеце.

Станіслаў Рэп'ях ужо колькі гадоў ашчадна засявае ніву дружбы, сяброўства зярнятамі павагі і ўдзячнасці да творцаў з іншых рэспублік, якіх рэгулярна запрашае і на паэтычнае свята «Пачуццё сям'і адзінай» на радзіму Тычыны, і на ўшанаванне памяці вялікага майстра Даўжэнкі, і на літаратурныя сустрэчы з моладдзю, школьнікамі, працаўнікамі горада і вёскі. Шмат сіл і часу аддае ён перакладчыцкай дзейнасці. Прыемна адзначыць, што ў *таленавітых* перакладах Рэп'яха загучалі па-ўкраінску творы Максіма Багдановіча, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Танка, Васіля Зуёнка, Ніла Гілевіча, Анатоля Грачанікава, Петруся Макаля, Міколы Кусянкова, творы многіх гомельскіх і бранскіх літаратараў, з якімі асабліва трывалыя сувязі ў аўтара. Ім перакладзены з беларускай мовы і шэраг апавяданняў Міхася Даніленкі, Леаніда Гаўрылкіна, Яўгена Каршукова. Асобна ў гэтым «паслужным» перакладчыцкім спіску хацеў бы вылучыць зборнік Аляксея Пысіна «Жураўліныя сурмы» — працу надзвычай сумленную, няпростую і значную ў справе сучасных украінска-беларускіх літаратурных кантактаў, у справе духоўнага пазнання, збліжэння і яднання нашых народаў.

Дзякуючы нястомным падзвіжніцкім намаганням С. Рэп'яха ў бліжэйшы час у Кіеве павінен выйсці ў свет паэтычны зборнік, складзены з твораў аўтараў трох суседніх абласцей — Бранскай, Чарнігаўскай і Гомельскай, які будзе своеасаблівым сучасным мастацкім летапісам духоўнай еднасці і братэрства ўсходнеславянскіх народаў.

Запалонены красою «зачараванай Дзясны» і далягладаў роднага краю, закаханы ў жыццё і людзей, паэт верыць ім, давяраючы свае радкі, выспеленыя сэрцам, узважаныя на сцежках і шляхах і любай яму бацькоўскай зямлі, і ў далёкіх вандроўках ад яе. Хай спорным і ўмалотным для яго будзе і наступнае паўстагоддзе.

**Віктар ЯРАЦ.**

г. Гомель.

---

# НАШ СЯБАР—КНІГА ЧССР

**Традыцыйным стала правядзенне ў рэспубліцы Дэкад кніг Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Сёлетняя прысвячаецца Нацыянальнаму святу народаў Чэхаславакіі, якія ў сорак трэці раз адзначылі завяршэнне нацыянальна-вызваленчай барацьбы і вызваленне краіны Савецкай Арміяй ад фашысцкіх захопнікаў. Як і ў мінулыя гады, дэкада дае магчымасць падвесці пэўныя вынікі супрацоўніцтва ў галіне кнігавыдання паміж БССР і ЧССР.**

**Кнігі братняй краіны карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў беларускага чытача, які толькі ў апошні час на сваёй роднай мове змог прачытаць творы Ю. Фучыка, Я. Гашака, В. Незвала, І. Герцыкавай і іншых чэшскіх і славацкіх пісьменнікаў. *Усяго ж за гады Савецкай* улады ў рэспубліцы выпушчана 50 кніг чэхаславацкіх аўтараў, агульным тыражом на беларускай і рускай мовах больш 1 мільёна экземпляраў.**

**Усё больш упэўнена знаходзіць сабе дарогу на чэхаславацкай зямлі і беларуская кніга. У ЧССР добра ведаюць творы Якуба Коласа, Івана Мележа, Васіля Быкава, Максіма Танка, Івана Шамякіна, Янкі Брыля, Івана Пташнікава, Аляксея Дударава, Івана Чыгрынава, Віктара Казько, Анатоля Кудраўца і іншых пісьменнікаў.**

**Урачыстае адкрыццё Дэкады кніг ЧССР, арганізаванай сёлета Дзяржаўным камітэтам БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю і Беларускім таварыствам дружбы і *культурнай сувязі з замежнымі* краінамі адбылося ў Мінску, у Доме кнігі. У сталічнай кнігарні «Дружба» працуе выстаўка-продаж чэхаславацкай літаратуры, на якой прадстаўлена каля 300 кніг, альбомаў, даведнікаў, у тым ліку «Падручнік чэшскай мовы», а таксама выдадзеная на чэшскай і рускай мовах «Новая кніга вялікай дружбы», што расказвае аб супрацоўніцтве Чэхаславакіі і Савецкага Саюза.**

**НАШ КАР.**

---

# *ЧАСОПІСЫ Ў МАІ*

## «П О Л Ы М Я»

**З вершамі выступаюць М. Дукса, У. Карызна, Я. Пфляўмбаўм. У. Казбярук прадстаўляе літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» — «Песня Беласточчыны». Публікуюцца вершы А. Барскага, В. Шведа, Ю. Зубрыцкага, Я. Чыквіна, Д. Шатыловіча і іншых.**

**Друкуюцца аповесць І. Новікава «Рыжая *Галка», заканчэнне аповесці* У. Караткевіча «У снягах драмае вясна», апавяданні Л. Калюгі (уступнае слова А. Шарахоўскай).**

**У раздзеле «Публіцыстыка»— артыкул Я. Бабосава «Новае мысленне супраць ядзернага вар'яцтва» і нататкі Г. Шатон «Ірландскі тупік».**

**«І боль, і любоў, і трывога мая...»— нарыс Я. Пархуты.**

**Артыкул І. Ігнаценкі і А. Караля «Пад сцяг чырвоны...» прапануецца пад рубрыкай «*Старонкі нашай гісторыі*».**

**Над вершамі для дзяцей разважае В. Тарас — «Хто ў цераме жыве?».**

**Кнігі рэцэнзуюць Б. Бур'ян («Хвала жыццю» А. Русецкага), Г. Шупенька («На маёй далоні лінія ракі» А. Казловіча), А. Марціновіч («Хлеб і мужнасць» Л. Левановіча).**

**Ёсць падборкі «З рэдакцыйнай пошты» і «Дзядоўнік на парнасе»**

## «М А Л А Д О С Ц Ь»

**У раздзеле паэзіі — вершы А. Глобуса, Ю. Свіркі, Т. Бондар, У. Карызны, М. Маляўкі.**

**З празаічных твораў прапануюцца апавяданні Я. Мальчэўскай і І. Канановіча, аповесці «Час чумы» У. Арлова і «Дарога на замчышча» А. Кажадуба.**

**«Хісткая кладка, ці мост у будучыню»— фотарэпартаж В. Ждановіча.**

**У нумары змешчаны таксама артыкул П. Рабянка «Хто ўздыме ветразь?», нарыс М. Міхайлашава «Падрыўнік Хведар Кухараў», штрыхі да творчага партрэта С. Гаўрусёва «Сон пра рамонкавага хлопчыка», напісаныя С. Кавалёвым, развагі М. Макарцова аб тэатральным элеменце ў беларускім фальклоры «Душа і хараство», выступленне Д. Падбярэзскага «Чакайце, вам адкажуць, або Роздум пра рок-музыку *ля тэлефона* недаверу», рэцэнзія В. Макарэвіча на кнігу Р. Барадуліна «Маўчанне перуна» і іншыя матэрыялы.**

## «Н Ё М А Н»

**Увазе чытача прапануюцца падборкі вершаў У. Някляева «Сітуацыя» (пер. М. Шэлехава), В. Макарэвіча «Ля матчынай хаты» (пер. А. Дракахруста) і Л. Ляўшун «Радкі кахання».**

**Друкуюцца апавяданні Г. Папова, аповесць М. Магільнага *«Да асобага распараджэння»*, артыкул У. Хацяноўскага «Перагнаць, не даганяючы», нарыс У. Гойтана «Начныя «прыхажане».**

**С. Грахоўскі прапануе творы ваеннага часу— «Ты мне павер...». У раздзеле «Запіскі. Успаміны. Дакументы» змешчаны таксама лісты У. Дулі «Ішоў салдат...» (публікацыя А. Лысенкі), нататкі В. Емяльянава «Цана солі», перапіска Г. Сіненкі з Ф. Гладковым і гутарка з ім «Я меў справу з народам...».**

***Э. Пугачова расказвае пра малюнкі* беларускіх мастакоў гадоў вайны — «Зірнем удалечыню, у знаёмыя рысы».**

**«Хто бярэ слова?»— развагі А. Сямёнавай пра стан сённяшняй беларускай літаратуры.**

**Раман С. Зайцава «Перамагаючы — азірніся»— рэцэнзуе М. Тычына. І. Афанасьеў аналізуе кнігі В. Каваленкі «Покліч жыцця» і «Агульнасць лёсаў і сэрцаў».**

**МУЗЫКА**

# «Духавікі» у люстэрку праблем

МУЗЫКА — не спорт. Перавагу спаборніка ні ў секундах, ні ў метрах, ні ў грамах не змерыш. Таму ўпэўнена перамагаць можна, маючы яўную перавагу ў мастацкай інтэрпрэтацыі, выразнасці гучання інструмента, асэнсаванасці выканання, тэхнічнай аснашчанасці. Але для таго, каб усе гэтыя якасці паспрыялі выяўленню творчай індывідуальнасці выканаўцы, патрэбна поўная яго разняволенасць на сцэне ў складаных конкурсных умовах, перад высокакампетэнтным слухачом.

Нас, беларускіх педагогаў, доўга непакоіла пытанне: чаму, нягледзячы на значную колькасць папярэдніх праслухоўванняў, выступленняў у канцэртах, нашы канкурсанты адчуваюць сябе на сцэне даволі скавана? Зразумела, што сольнае выканальніцтва на трубе, трамбоне і тубе і г. д. у Беларусі не распаўсюджана гэтак, як у Прыбалтыцы. Гэта пэўным чынам уплывае на псіхічны стан выканаўцы, і ўсё ж...

Пад час талінскага конкурсу, здаецца, знайшоў адказ: нашы выхаванцы фактычна не ведаюць сабе цану! Рыхтуючы прафесійных музыкантаў, мы не заўсёды надаём належную ўвагу выхаванню пачуцця прафесійнай годнасці. Для «бягучага жыцця» нам зручней сціплы, паслухмяны студэнт. Да такога ідэалу вучня многія прывыклі і імкнуцца. Аднак жа не варта забываць, што сціпласць у побыце (несумненна станоўчая якасць) і сціпласць у працэсе творчасці, тым больш на сцэне, — якасці супрацьлеглыя па каштоўнасці. Пытаннямі псіхалагічнай падрыхтоўкі маладых музыкантаў, выхаваннем у іх байцоўскіх якасцей мы займаемся пакуль слаба. А трэба займацца — далучаючы і псіхолагаў, і ўрачоў, як гэта даўно практыкуецца, дарэчы, у спорце.

Успамінаю, як выходзіў на конкурсную сцэну эстонскі тубіст Урмас Кыйв (ён атрымаў потым першую прэмію). Слухачы ў зале, члены журы нібы пераўвасабляліся. Яго адкрытая ўсмешлівасць выклікала цёплыя ўсмешкі і ў зале, яго дабрадушная непасрэднасць і пачуццё камфорту на сцэне быццам развейвалі характэрнае для конкурснай атмасферы нервовае напружанне. Нязмушанасць у паводзінах, віртуознасць выканання настройвалі на творчы лад і залу. Думаецца, тут вынік не толькі таленавітасці музыканта, але і адпаведнага выхавання.

Няўпэўненасць музыканта ў сабе можа ўзнікнуць і ад таго, што няма рэгулярных творчых сувязей паміж ВНУ розных рэспублік. Ад конкурсу да конкурсу — чатыры гады. Многае мяняецца. І канкурсанты, і педагогі, як правіла, кепска ўяўляюць сабе канкрэтны стан выканальніцтва на духавых інструментах у краіне. Наладзіць рэгулярныя кантакты, вядома, не проста, аднак без іх ужо нельга. Між іншым, прыемна было сустрэць на конкурсе ў Таліне педагогаў музычных вучылішчаў Прыбалтыкі, але нікога не было з Беларусі, хоць нас прасілі памагчы з гасцініцай (і аргкамітэт конкурсу ахвотна згадзіўся гэта зрабіць) педагогі Маладзечанскага, Брэсцкага, Лідскага і іншых музычных вучылішчаў. Чаму ж не прыехалі? Відавочна, хтосьці захацеў «зэканоміць капейчыну». Якія вынікі гэткай эканоміі — думаю, можна і не тлумачыць...

КОНКУРСЫ — гэта магчымасць адкрыць новыя імёны. Конкурсы — гэта вызначэнне набыткаў і нявырашаных праблем. Дарэчы, сярод праблем — навучанне на духавых інструментах сапраўды музычна таленавітай моладзі. Што маю на ўвазе?

Пошук талентаў для навучання музыцы ў рэспубліцы вядзецца, і даволі някепска. Аднак у музычных школах — і ў звычайных, і ў сярэдніх спецыяльных — укаранілася трывалая практыка, калі прынятых дзяцей размяркоўваюць па спецыяльнасцях паводле няпісанай табелі аб рангах музычных інструментаў. Такім чынам, самых здольных накіроўваюць у класы фартэпіяна, крыху слабейшых — на скрыпку і віяланчэль, яшчэ слабейшых — на народныя інструменты, астатніх — на духавыя. Праўда, калі ўжо быць дакладным да канца, дык духавыя інструменты — не апошняя інстанцыя. Знакаміты трубач, прафесар Маскоўскай кансерваторыі Міхаіл Табакоў любіў гаварыць пасрэдным вучням: «Не хвалюйся, даражэнькі, не атрымаецца на трубе — я перавяду цябе на кантрабас, а калі і там не атрымаецца — не бяда. Пойдзеш працаваць у міністэрства». Словы яго аказаліся трапныя.

Супраць такой дыскрымінацыі музыканцкіх спецыяльнасцей барацьба вядзецца і доўгая, і безвыніковая. Цешыць душу надзея на школы, дзе дзеці будуць навучацца ігры толькі на духавых інструментах. А таксама надзея на тое, што зменіцца пазіцыя кіраўніцтва Сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры БДК, дзе даўно ўжо трэба павялічыць прыём на духавыя інструменты ў першыя класы, а не жывіць гэтую спецыяльнасць у асноўным тымі, хто не спраўляецца з фартэпіяна і з іншымі інструментамі.

І ЗНОЎ трэба гаварыць пра інструментарый. Праблема, як той казаў, завязла ў зубах, але вастрыня яе ад гэтага, на жаль, не зменшылася. (Нездарма гаварылася пра гэта ў «Пражэктары перабудовы»). Дык вось. Пад час конкурсаў нізкая якасць нашых музычных інструментаў пэўным чынам кампенсуецца талентам выканаўцы, яго прыродным гукам, тэхнічным майстэрствам. Так было і на талінскім конкурсе з нашым тубістам Дзмітрыем Уласенкам. Калі ён вынес сваю старэнькую ленінградскага завода тубу на сцэну, у журы пачуўся лёгкі смех. Нам нічога не заставалася, як звесці ўсё на жарт і сказаць, што інструмент гэты «з калекцыі»...

А ў трубачоў праблемы куды вастрэйшыя. Пры ўсім жаданні нашы трубачы не змогуць у бліжэйшыя гады выйсці на міжнародныя конкурсы, бо мы не маем тых інструментаў, на якіх сёння прынята іграць у свеце і на якіх выконваецца, напрыклад, музыка барока. Сучасны трубач на міжнародным конкурсе іграе на 5—6 трубах рознага ладу. Мы ж з грахом папалам можам разлічваць на адзін прыстойны інструмент. З 15 па 24 верасня ў Парыжы будзе праходзіць Міжнародны конкурс трубачоў імя Марыса Андрэ. Конкурс вельмі прэстыжны. Сярод іншых запрашэнне на яго атрымалі і беларускія трубачы. Але ні з Беларусі, ні з іншых саюзных рэспублік удзельнічаць у ім ніхто не будзе. Няма інструментаў, іграць няма на чым, а таму іграць на іх не ўмеем...

Можна сказаць, што праблема гэта агульнасаюзная і нельга склаўшы рукі чакаць, калі яна вырашыцца ў краіне. Аднак практыка паказвае, што ў некаторых рэспубліках яна пачынае вырашацца. Неабходна зацікаўленасць у развіцці мастацтва, культуры, а тады знойдзецца і валюта, на адсутнасць якой спасылаюцца ў амаль безвыходнай сітуацыі з інструментамі. Вядома, што ў Мінску ёсць прадпрыемствы, якім нічога не варта даць дзесяткі тысяч інвалютных рублёў на набыццё апаратуры для сваіх самадзейных калектываў. А вось хто дасць валюту адзінай у рэспубліцы кансерваторыі? Пакуль жадаючых не знаходзіцца. Тое, што ў сілах зрабіць Міністэрства культуры БССР, яно робіць, але гэтая кропля ў моры праблемы не вырашае.

Да рэвалюцыі ў нас было распаўсюджана мецэнацтва. Ну, а чаму б сёння такім мецэнатам не быць якому-небудзь буйному заводу? Тым больш, што і мы, работнікі мастацтва, можам прапанаваць сваю дапамогу: даць спецыялістаў, наладзіць шэфства над калектывамі мастацкай самадзейнасці, арганізаваць універсітэт музычных ведаў на прадпрыемстве. У рэшце рэшт, духавы аркестр нашай кансерваторыі мог бы на дагаворных асновах удзельнічаць у правядзенні заводскіх грамадска-палітычных і культурна - асветных мерапрыемстваў. Гісторыя паказвае, што ўклад сродкаў у мастацтва, у мастацкую культуру — прыкмета не толькі мудрасці і эканамічнай сілы, але і дакладных і дальнабачных гаспадарчых разлікаў. Бяда, канечне, у тым, што паслугамі нашых спецыялістаў на ніве асветніцтва многія прывыклі карыстацца бясплатна. Гэта як бы наш грамадзянскі абавязак. А вось даць нам інструменты — ні ў доўг, ні за грошы — пакуль не атрымліваецца.

НА ГЭТЫМ можна было б і закончыць артыкул. Але вось што яшчэ непакоіць, калі прыгадваю шматлікія свае гутаркі з музыкантамі. Прывяду два факты. Першы. У Сімфанічным аркестры Дзяржтэлерадыё БССР быў наладжаны конкурс. На конкурс вылучаны ўвесь склад аркестра. Гэта — у духу часу. І гэта, натуральна, стымулюе выканаўчае самаўдасканаленне музыкантаў. Але ж камісіі, якая атэстуе музыкантаў, даволі часта даводзілася вырашаць: ці то пакінуць духавіку (або струнніку), які вучыўся 15—16 гадоў свайму рамяству ў навучальных установах і не менш тэрмін працаваў у прафесійным калектыве, зарплату 130 рублёў у месяц, ці то павысіць або знізіць яе на 10 рублёў?

Факт другі. У суседніх рэспубліках (і не толькі) ужо ці не палова музыкантаў сімфанічных аркестраў (зарплата музыкантаў рэспубліканскіх аркестраў прыкладна аднолькавая па краіне) занялася індывідуальнай па патэнту ці кааператыўнай дзейнасцю.

Таму я і занепакоены: калі гэткая сітуацыя захаваецца надоўга, дык быццё, у рэшце рэшт, вызначыць свядомасць, і... І, магчыма, што на пытанне пра перспектывы развіцця выканальніцтва на аркестравых інструментах проста ўжо не будзе каму адказваць.

**Мікалай ВОЛКАЎ,**
**дацэнт БДК, член журы II Міжрэспубліканскага конкурсу.**

---

А калі фільм пайшоў міжнародным экранам, я ўявіў, наколькі пабольшала суддзяў маіх памылак. І сорам мой набыў еўрапейскія памеры...

**— У вас абвостранае пачуццё адказнасці?**

— Я пабойваюся ўхвалы і аддаю перавагу крытыцы. Тая здаравейшая і больш карысная для творчасці, хоць ухвала таксама патрэбна. Ухваляюць — значыць, згаджаюцца з табою, а згода — ужо падтрымка.

**— Сваю творчую адметнасць вы выявілі адразу — з першых фільмаў і першых эскізаў да іх. Але стужкі выходзілі на экран і ад вашай індывідуальнасці, выкажуся далікатна, там заставалася няшмат. Чым гэта растлумачыць?**

— Мне падаецца, што месца мастака-пастаноўшчыка ў кіно, мера яго адказнасці да гэтага часу не вызначаны. Мы, мастакі кіно, самі вінаватыя ў гэтым, — хоць бы тым, што прызвычаіліся да «трэціх роляў» пасля рэжысёра і апаратара. Чым, адпаведна, зменшылі сваю адказнасць за фільм. Але ж мы, мастакі, валадары пластычных сродкаў выяўлення, таму мусім адказваць за кожны кадр. Я не згодны з тымі, хто сцвярджае, што лепшы мастак той, каго на экране не заўважаеш. Мастак павінен ісці ўпоравень з рэжысёрам, выяўляцца як і рэжысёр. У нечым — наследаваць яму, а дзе-ніздзе весці яго за сабою. Вобразна я, мастак... сабака на павадку. Усё разумею, адчуваю, добра арыентуюся, маю развітую інтуіцыю. І на пэўных этапах шляху трэба даваць веры маёй інтуіцыі. А калі-нікалі мне рэжысёрскі «павадок» і вырываць трэба: аргументавана адстойваць і даводзіць сваю рацыю. Праўда, не заўсёды стае адвагі і ўмення давесці, ці бракуе пачуцця адказнасці... Блізкім да ідэалу мне падаецца джаз: ёсць агульная тэма, ідэя, і ёсць магчымасць кожнаму сыграць сола. Вось і ў кожнага мастака кіно — касцюмамі ці грымам ён займаецца — мусібыць сваё «сола».

**— Так, але ж на чале творчага саюза заўсёды стаіць рэжысёр, і шмат што залежыць ад таго, якія задачы ставіць ён перад творчай групай, у прыватнасці, перад мастаком.**

— На жаль, часцяком рэжысёрскія задачы расплывістыя, няўцямныя. Тады я стаўлю іх сабе сам. Бывае, мастацкая праграма будучага фільма размываецца ў эскізах: з-за непаслядоўнасці рэжысёра ці з-за нашых агульных непаразуменняў, але мастаку больш за ўсіх трэба вінаваціць самога сябе. І — стан нашай айчыннай кінавытворчасці. Яго нават параўнаць нельга з узроўнем сусветнай ці еўрапейскай, і добрую ідэю рэалізаваць надзвычай цяжка. Ці зусім немагчыма.

**— Што да непаразуменняў мастака і рэжысёра, дык яны працы не дапамогуць. Выйсце— шукаць рэжысёра-аднадумцу?**

— Паразумецца сяк-так можна, але знайсці аднадумцу куды цяжэй. Выйсце — браць у работу найбольш блізкі сцэнарны матэрыял.

**— Ці часта вы адчуваеце незадаволенасць?**

— Часцей як хочацца. Але я стараюся рэальна глядзець на жыццё і рабіць як мага болей на карысць справе. Разумею, што вольна палётаць — як булгакаўская Маргарыта ці хоць бы Карлсан — мастаку кіно не выпадае, бо... зачэпіцца за правады вытворчасці. Але цягне ўзлунаць.

**— Ці не таму вы працягваеце шукаць магчымасці найбольш поўна выказаць сябе, займаецеся графікай, жывапісам, звяртаецеся да тэатра і да мультыплікацыі?**

— Пэўна, таму. У мультыплікацыі, напрыклад, ад запачаткавання ідэі да яе ўвасаблення праходзіць менш часу, чым у кіно. Тут мастак бліжэй да... самога сябе. І магчымасці ў яго большыя. Зараз я намагаюся сумясціць ігравое кіно і мультыплікацыю, адначасова займаюся і тым, і другім. У ігравым кіно канчаю работу з рэжысёрам Яўгенам Маркоўскім над фільмам «Філіял» (сцэнарый ленінградскага драматурга Аляксандра Жыцінскага), працу над новым мультфільмам распачаў з Таццянай Жыткоўскай.

**— Ваш фільм «Капрыча» — гэта боль, крык душы, якая больш не імкнецца да гармоніі, бо ў нечым здрадзіла сабе. А пра што ваша новая работа? Новы... боль?**

— Аўтар сцэнарыя новага мультфільма — сцэнарыст «Капрыча» Аляксандр Зайцаў. Мне блізкія яго пошукі гармоніі чалавечага духу, імкненне пільна ўглядзецца ў наш свет. Жанр новага мультфільма блізкі да філасофскай прытчы. Але працу толькі-толькі распачалі, таму казаць пра вынікі немагчыма.

**— Мультфільм «Капрыча» ўжо неаднаразова паказвала тэлебачанне, па ўсім відаць, што ў хуткім часе ён з'явіцца і на экранах кіно. Я прадбачу, што асоба іх мастака-пастаноўшчыка прыцягне ўвагу гледачоў і не выключана, што ў іх з'явіцца жаданне пазнаёміцца з ягонаю творчасцю бліжэй...**

— Гады чатыры назад у Доме кіно ладзілі маю персанальную выстаўку; калі ж будзе наступная, сказаць не магу. Але штогод у тым самым Доме кіно збіраюць выстаўкі-справаздачы мастакоў кіно, дзе можна пабачыць і мае новыя работы.

Гутарку вяла
Ірына КУДЗЕЛІНА.

---

**ПРЭМ'ЕРЫ**



Сцэна са спектакля.
Мадам Рэнесанс — народная артыстка БССР Н. Гайда.

**У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі БССР пастаўлена фолк-опера па матывах твораў У. Маякоўскага «Клоп». Кампазітар В. Дашкевіч, лібрэта Ю. Кіма і В. Дашкевіча, рэжысёр В. Цюпа, дырыжор А. Сасноўскі, сцэнограф У. Жданаў. У спектаклі заняты народная артыстка БССР Н. Гайда, заслужаныя артысты рэспублікі К. Лосеў, А. Ранцанц, артысты С. Якавец, Р. Харык, І. Лінкевіч, А. Касцецкі і інш.**

Фота Ул. КРУКА.

ЧЫТАЮЧЫ ЧАСОПІСЫ

# АЧЫШЧЭННЕ — ТОЛЬКІ Ў ПРАЎДЗЕ

СЁННЯ вяртаюцца з небыцця незаслужана забытыя ці ў свой час неапублікаваныя творы. Свае адкрыцці ёсць і ў «Нёмана». Шырокі рэзананс атрымала ў свой час «Аповесць для сябе» Б. Мікуліча. Цяпер жа прыцягваюць увагу адразу дзве нёманскія публікацыі — аповесць Л. Вакулоўскай «Вальфрам — метал цвёрды» (№ 3) і лісты С. Баранавых «Я сумленны грамадзянін...» (№ 4, публікацыя Л. Савік), з часткай якіх, дарэчы, пазнаёміў чытачоў і «ЛіМ». Творы гэтыя, безумоўна, розныя. У першым выпадку — народжанае аўтарскай фантазіяй, у другім — тое, што нават самая шчодрая фантазія ўявіць не можа. Аднак і аповесць і лісты аб адным: тым жудасным, бесчалавечным, жорсткім, амаральным, што прынёс народу і краіне «сталінізм».

Правамернасць падобнага тэрміну відавочная. Ён неаднаразова гучаў і ў выступленнях удзельнікаў нядаўняй канферэнцыі гісторыкаў і пісьменнікаў, арганізаванай Акадэміяй навук СССР, Саюзам пісьменнікаў СССР і Акадэміяй грамадскіх навук пры ЦК КПСС. Гэты тэрмін падтрымаў і начальнік Інстытута ваеннай гісторыі Міністэрства абароны СССР Д. Валкагонаў, указваючы, што размова ідзе аб грубым скажэнні ленінскіх ідэй аб сацыялізме, далёка не поўным выкарыстанні матэрыяльнага і духоўнага патэнцыялу новага ладу і чалавечага фактара, аб нанясенні грамадству незагойных да гэтага часу ран.

Гэтыя раны і па сённяшні дзень крываточаць у прататыпа галоўнага героя аповесці Л. Вакулоўскай Дзмітрыя Мохава. Яму пашанцавала. Арыштаваны па артыкулу 58-му (большасць палітзняволеных па ім і праходзіла), ён перанёс усе пакуты пекла сацыяльнай несправядлівасці і летнім ліпеньскім днём памятнага 1956 года разам з іншымі рэпрэсіраванымі выйшаў на свабоду. Аповесць пісалася ў 1958—1960 гадах, у час, калі ў жыцці грамадства яшчэ дыхалі адліжныя ветры, ды толькі паступова яны ўсё больш слабелі, на змену аднаму бюракратычнаму, адміністрацыйнаму апарату прыходзіў другі, няхай і больш «мяккі» ды гэтаксама непрымірымы да думкі, калі яна не супадала з афіцыйнымі поглядамі.

Мохава міжволі параўноўваеш з героем нядаўняга фільма «Халоднае лета пяцьдзесят трэцяга». Напачатку гэткая ж адасобленасць ад іншых, знаходжанне «ў сабе». І раптам — азарэнне, усведамленне, што ты таксама чалавек! Чалавек, нягледзячы на тое, што не год, не два, не тры чалавекам цябе ніхто і не лічыць. Праўда, Мохаву не давядзецца ўступаць у паядынак з агалцелымі крымінальнікамі, амніціраванымі па загаду Берыя. Але ўсё ж паядынак у яго адбудзецца.

Мохаў сённяшні (дзеянне ў аповесці адбываецца ў 1948—1949 гадах) уступіць ва ўнутраную палеміку з Мохавым учарашнім, спрабуючы вызначыць і сваё месца ў падзеях, што разгортваліся тады, у трыццаць сёмым, калі мільёны непавінных людзей былі рэпрэсіраваны. І тады высветліцца, што ён, ні ў чым невінаваты, па сутнасці таксама віноўны. Парадоксу ў гэтых разважаннях няма. Вінаваты Мохаў не перад народам, не перад краінай, не перад законам, а перад уласным сумленнем, бо, сам таго не жадаючы, у нечым садзейнічаў беззаконню.

Вартасць аповесці перш за ўсё ў гэтым, дакладна перададзеным моманце азарэння героя. Вядома, ёсць у творы і іншае: не менш дакладна схоплены лагерны побыт; дзіўнае, нечаканае і для самога Мохава, каханне, што ўзнікла ў яго да начальніка геалагічнай партыі Антонавай, у якой яму давялося часова працаваць; максімалізм у ацэнцы людзей, падзей; аскетызм у паводзінах Антонавай. Усё гэта, як кажуць, працуе на сюжэт, драматызуе дзеянне, часам нават вядзе да дэтэктыўна-прыгодніцкага пачатку ў творы, што, несумненна, будзе з прыхільнасцю сустрэта пэўнай катэгорыяй чытачоў.

І ўсё ж галоўнае ў аповесці эвалюцыя самога Дзмітрыя Мохава — доўгая, пакутлівая, якую праходзіць ён з часу знаходжання ў дзіцячым доме па дзень, калі на ўласнай скуры адчуў, што значыць быць «ворагам народа». А дагэтуль — бесклапотнае жыццё хлапчука-падлетка Дзімкі Мохава, жаданне знайсці сваю самастойную дарогу. Арыенцір падказаў яму любімы выхавацель Палікарп Іванавіч, якога дзеці называлі Філосафам. Самае дарагое, вучыў ён, Радзіма, і дадаваў: «І яшчэ, хлопчыкі, ёсць Праўда... Яна заўсёды тут,— ён прыклаў да сэрца далонь. — Правільней, заўсёды павінна быць тут. Калі вы хочаце з годнасцю пражыць на зямлі».

Здавалася, жыві і працуй. Тым больш, і пазней справы ладзіліся: «Прыйшоў на завод зменным інжынерам, а хутка — ужо галоўны інжынер. Потым выбралі ў райком, праз год стаў сакратаром. А з правамі першага можна горы звярнуць у раёне. Толькі паспявай паварочвайся». І ён паспяваў. І шчыра верыў ўсяму, што адбывалася ў краіне. Пройдзе шмат гадоў, многае будзе перажыта, і Мохаў успомніць, як неяк да яго зайшоў загадчык сектара ўліку, стары камуніст Толсцікаў («два ордэны Баявога Чырвонага Сцяга» на той час меў!). Сумняваўся, паказваючы першаму сакратару білеты тых, каго выключылі з партыі. Ён, Мохаў, як «адрэзаў»: «Будзем лічыць, Платон Дзянісавіч, што гэтай размовы не было».

Пратакольная дакладнасць аповесці, ніводнага лішняга слова: «Праз тыдзень яму, Мохаву, пазваніў начальнік раённага НКУС. Сказаў проста, на правах добрага знаёмага: «Зайдзі, Дзмітрый, трэба пагаварыць». Ён зайшоў. Назад дзверы перад ім не адчыніліся. Яго абвінавацілі ў наўмыснай затрымцы пуску тэкстыльнай фабрыкі, у здрадзе інтарэсам народа. І судзілі яго таксама як ворага народа... «Механізм насілля, запалохвання працаваў бездакорна. Стаўка рабілася вывераная. На веру ў сацыялізм, будаўніцтва якога разгортвалася, на веру таму, што і сам сацыялізм, і яго будаўніцтва, і ўсе поспехі атаясамліваў з імем самага вялікага і самага мудрага. Тыя, хто ні ў чым не сумняваўся, праз некаторы час самі траплялі ў «мясарубку», якая перамолвала, калечыла людскія лёсы. На іх месца прыходзілі іншыя, хто гэтаксама верыў самаму, самаму...

Сляпая вера падточвала духоўныя сілы народа, паралізавала волю, рабіла яго сляпым вінцікам у механізме насілля і запалохвання. «Сляпая вера ў справядлівасць усяго, што адбывалася, на заўсёды выключыла з... розуму і сэрца Мохава любое сумненне. Гэтая ж сляпая вера кіравала і Антонавай, калі яна ўпершыню загаварыла з Мохавым. Страшным прысудам прагучалі яе словы: «Слухайце, Мохаў, а ці існуе наогул здраднік ці небяспечны злачынец, які б прама сказаў: так, я здраднік, я небяспечны злачынец?»

Працверазенне прыйшло паступова. Калі ў Мохава яго паскорыла пакутлівае абдумванне свайго мінулага, дык Антонавай такім каталізатарам маральнага і душэўнага ачышчэння стаў сам Мохаў, якога яна пакахала гэтаксама, як і ён яе. Не сказаць, каб у паказе ўзаемаадносін гэтых двух складаных людзей (Антонава перажыла гібель мужа) пісьменніцай ўмела расстаўлены псіхалагічныя акцэнты. Сям-там дае знаць і меладраматызм, і нават сентыментальнасць. Ды і нечаканая гібель Антонавай у час катастрофы верталёта «згушчае фарбы», скіроўвае ў рэчышча таго самага меладраматызму.

Але гэтыя аўтарскія недагляды не ўплываюць на ўспрыманне аповесці ў цэлым. Тым больш, што нават лісты С. Баранавых ускосна пацвярджаюць, што Л. Вакулоўскай удалося праўдзіва перадаць душэўны стан чалавека, які апынуўся ў няволі. На жаль, як гэта ні трагічна і балюча і як сведчыць яго скарга на імя пракурора БССР (слалася яна і ў іншыя высокія інстанцыі) і С. Баранавых верыў таму, каму нельга было верыць. Страшна чытаць такое, але супраць праўды не пойдзеш: «Прашу вызваліць мяне з-пад варты, з лагераў... Калі б я меў шчасце вярнуцца да сваёй літаратурнай работы — я змог бы напісаць цяпер эпапею нашай магутнай сацыялістычнай краіны. За гэтыя тры гады я бачыў жыццё ў яго паўнаце. Я бачыў ворагаў народа і бачыў бальшавікоў тут, на Далёкай Поўначы. Тут, дзе таксама Савецкая ўлада, як і ў мяне на радзіме... І ніякі вораг яе не пераможа, таму што яна адзіная, таму што ёю кіруе народ, воля якога ў вялікага Сталіна».

Сталін быў для мільёнаў людзей увасабленнем усяго савецкага. Значыць, С. Баранавых, верачы яму, думаў перш за ўсё пра Радзіму, народ, партыю. Гэтая вера і надавала сіл, каб жыць, хоць у той жа скарзе і прызнаваўся: «Хутка тры гады майго зняволення. Я ўжо страціў палавіну працаздольнасці. І, вядома, свайго тэрміну — дзесяць гадоў — не адбуду».

Сумленны грамадзянін С. Баранавых у гэтых сціплых радках, адрасаваных жонцы, захаваных ёй праз гады, паўстае чалавекам шырокага кругагляду, пісьменнікам, для якога літаратура была сапраўдным прызваннем. Далёка не кожны, прадчуваючы, што звароту назад няма (усе ж гэтыя скаргі былі без адказу!), бачачы, як непасільная праца падрывае і да таго слабое здароўе, мог застацца аптымістам і жыццялюбам. С. Баранавых заставаўся. Раскідваў на полі гной, працаваў з тачкай і кіркай ды думаў аб літаратуры, пра яе заўтрашні дзень: «Я прачытаў ва ўрыўку «Звязды», што ідзе п'еса Крапівы «Партызаны». Вітаю. Савецкая драматургія расце. Крапіва літаратурна вырас, крочыць наперад... Беражы, Надзянятка, мой раман, я калі-небудзь яго дапішу. У мяне вельмі многа імкненняў». Праз колькі дзён чарговы ліст: «Схадзі на п'есу Крапівы «Партызаны». Напішы мне тваё ўражанне».

Збалелая па прыгожым, спакутаваная душа прагнула хараства, як толькі магла. І там, у самых суровых умовах зняволення ён нешта пісаў (пра гэта, па ўсім, нам ужо ніколі не даведацца). Але месцамі і ў лістах да жонкі прамільгне, як праменьчык у пахмурны дзень, адзін-другі штрых, які пераконвае: перад табой чалавек чуйнага мастакоўскага позірку. Скажам, у гэтым вось лісце, з Уладзівастока: «Цяпер ляжу, абапёршыся на куфэрчык, на другіх нарах ля вакна. Праз акно бачыцца мора. Удалечыні па зыбі цялёпкаецца катэр. Ён, здаецца, нырае, як качка; захлёбваецца, але зноў плыве далей уздоўж берага...»

Зноў самае балючае: «...я сам перагрыз бы горла ворагу Савецкай улады, а тут мяне робяць ворагам народа». Балюча чытаць і тое, што ва Уладзівастоку С. Баранавых вымушаны быў жыць разам з аферыстамі і зладзеямі (згадкі з апошняга яго ліста). Не кажучы ўжо, што самае балючае, непапраўнае ў тым, што С. Баранавых не змог, як герой Л. Вакулоўскай Дзмітрый Мохаў, выйсці свабодным за межы лагера. Як не змаглі і дзесяткі іншых пісьменнікаў.

...Яшчэ дзве публікацыі. На тэму, з якой нарэшце, знята забарона. Ачышчэнне — толькі ў праўдзе. Праўда ж — і ў гэтых дакументах часу.

**Наш аглядальнік.**

# ГАВОРКА ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ

**Усесаюзны семінар драматургаў: уражанні і развагі**

**Прывязі з Масквы матэрыял — такім быў наказ рэдакцыі, калі я выпраўлялася на Усесаюзны семінар драматургаў. Усе чатыры дні добрасумленна занатоўвала фрагменты з лекцый (яны прыпадалі на першую палову кожнага дня) і выступленні. Гартаю блакнот, успамінаю пачутае і пабачанае і лаўлю сябе на думцы, што ўражанні мае і няпэўныя, і супярэчлівыя.**

**У чым найперш значэнне семінара — дык гэта ў самім факце яго правядзення. Апошні раз драматургі збіраліся ў Маскве гадоў 20 назад. Перагорнута яшчэ адна старонка айчыннай гісторыі — не вельмі слаўная, але і не самая горкая. Менавіта ў гэты перыяд фарміраваліся асобы і талент большасці з тых, хто запоўніў вялікую залу ЦДЛ. Учора многія з драматургаў мелі вядомасць, мелі поспех — калі не ўсесаюзны, дык у сваіх рэспубліках. Сёння ў іх творчая паўза, яны прымоўклі — як перад доўгай дарогай. Між тым «глядач чакае, пакуль мы зазірнём яму — цераз сябе — у душу. Галоўнае, не перашкаджаць нам» (з выступлення А. Дударава).**

**Першая палова дня па насычанасці інфармацыяй, па ўзроўню асэнсавання фактаў мінулага і сучаснага намнога пераўзыходзіла другую. І не дзіўна: на сустрэчу з намі запрасілі людзей, чые імёны гавораць самі за сябе. Гэта Д. Валкагонаў, О. Лацiс, В. Кабаідзе, Г. Лісічкін, С. Фёдараў, У. Бядуля...**

**Запрашаючы да размовы, кіраўнікі семінара, яны ж вядучыя пасяджэнняў — В. Розаў, М. Шатроў, А. Салынскі, намеснік міністра культуры СССР М. А. Грыбанаў — самі выказалі нямала слушных, часам палемічных думак. Аднак удзельнікі крыху аднабакова зразумелі парадак дня: «Перабудова і новае мысленне ў драматургіі». Пра тэмпы і цяжкасці перабудовы гаварылася шмат, а пра драматургію, пра тэатр неяк забывалі. Ці ў гэтай сферы перабудова ўжо адбылася і абмяркоўваць проста няма чаго?**

**Павінна дадаць — і завастрыць на тым увагу, што арганізоўвалі мерапрыемства сумеснымі намаганнямі Саюз тэатральных дзеячаў СССР, Саюз пісьменнікаў СССР і Міністэрства культуры. Беларуская дэлегацыя СТД была асабліва прадстаўнічай. Амаль усе вядучыя рэжысёры рэспублікі прыехалі паслухаць пра нашы драматургічныя праблемы. Яны, звычайна не ўступаючы ў публічную палеміку, усё ж галасуюць «супраць» беларускай драматургіі — сваёй творчай практыкай. Цікава было б іх вачамі зірнуць на пераменлівую (то разліецца, то перасохне) плынь гаворкі. Ці заўважылі яны, што пра арганізацыю, якая з усіх куткоў краіны шчодра выправіла ў Маскву сваіх прадстаўнікоў, амаль не згадвалася? Быццам і не флагман яна тэатральнай справы. Быццам і не творчы саюз зусім...**

**Як згаварыўшыся, драматургі пазбягалі болевых момантаў сваёй прафесіі. Пра ўласнае незайздроснае становішча, пра лёс п'ес, які ў многім залежыць ад паваў кан'юнктуры — ні слова. Мы перад таварышамі-рэжысёрамі — як пакупнікі перад прадаўцамі: нясмела, з душэўным трымценнем. Не здзіўлюся, калі ўпэўненыя ў сабе «прадаўцы» цішком пасміхаюцца. Маўляў, ёсць, ёсць тавар, ды не для кожнага...**

**Сваю ролю, магчыма, адыграла тое, што сярод удзельнікаў семінара большасць моладзі (гэта было агаворана ў запрашэннях). «Маладыя», якім, праўда, пад сорак, не спяшаліся кідацца ў бойку. Як сказаў мне калега-малдаванін, «не палезу ў карыта, каб парасяты не з'елі». Ці не таму выкрасліў сябе са спісу ўвогуле не баязлівы Алесь Петрашкевіч? Зрэшты, не мне ўпікаць — я таксама маўчала.**

**Дакладнае, адпаведнае мясцовай сітуацыі слова прагучала не тут,— раней, у Мінску. На адным з пленумаў СТД БССР яго прамовіў Аляксей Дудараў. Слова гэта — «крызіс». Але сам тэатр — усё больш у тым пераконваюся — не здольны мець цвярозы, рэалістычны погляд на сябе самога. Ён толькі ў грыме і ў пышным убранні асмельваецца зазірнуць у люстэрка. А люстэрка тое — прэса, тэатральная крытыка — у меру сваіх здольнасцей спрыяе самападману, жывучасці старых ілюзій і нараджэнню новых. Калі ў літаратуры, як пісаў неяк у «ЛіМе» Нічыпар Пашкевіч, мы ўсе жывём адной вясковай абшчынай, то што гаварыць пра тэатральнае асяроддзе, яшчэ больш замкнёнае? Прынцыповасць, аб'ектыўнасць крытыкі ў такіх умовах становяцца рэччу амаль немагчымай. Нівеліруецца само паняцце крытыкі, пышным цветам расцвітае і заражае моладзь канфармізм. Пасля здачы або прэм'еры — шапаткі, малапачцівыя рэплікі («Правал!»), а на старонках выданняў — станоўчыя рэцэнзіі. Калі малады крытык усё ж пасмее пра нейкі калектыў ці спектакль сказаць без звыклай экзальтацыі, у заклапочаным хаця б тоне — ён ужо «ниспровергатель» святыняў.**

**Дзякуючы ўсяму названаму, вакол сапраўднага стану тэатра ствараецца своеасаблівая «зона маўчання», у існаванні якой жыццёва зацікаўлены тыя, у каго правоў сёння больш, чым абавязкаў. Тэатральная бюракратыя, як і ўсялякая іншая, даўно думае толькі пра сябе, а не пра нейкую там прафесійную ці нацыянальную годнасць.**

**Што гаворка такая можа адбыцца, сведчыў апошні дзень Усесаюзнага семінара, калі дыскусійная плынь разлілася і зайграла ўсімі адценнямі. З бляскам выступілі крытыкі: І. Вішнеўская, В. Бандарэнка, В. Максімава, М. Швыдкой... Мы назіралі плюралізм у дзеянні — барацьбу пазіцый, перакананняў, груповак... Дакуль жа ў нас будзе ціха?**

**Віктар Сяргеевіч Розаў, вядучы пасяджэнне, прывёў наступны гістарычны анекдот. Бацька Дыягена быў фальшываманетчыкам. Калі Дыяген звярнуўся да аракула — ці ісці яму бацькавым шляхам, той адказаў: «Лепш падрабляць грошы, чым ісціну». Першы крок на шляху да ўдасканалення — назваць рэчы сваімі імёнамі, пераадолець ведамаснасць, каставасць інтарэсаў. Ці хопіць у дзеячаў беларускага тэатра для гэтага сіл і прынцыповасці — пакажа час.**

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

## ДА ДЗЁН СЛАВЯНСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ І КУЛЬТУРЫ

# Наша неацэнная спадчына

У гэтыя дні ў нашай краіне і шырока ў свеце адзначаецца 1000-годдзе ўвядзення хрысціянства на Русі, прыняцця Кіеўскай Руссю праваслаўя як дзяржаўнай рэлігіі. А гэтая ж падзея, што мела месца тысячу гадоў таму назад, была ў пэўным сэнсе вынікам дзейнасці славутых славянскіх першаасветнікаў, заснавальнікаў славянскай пісьменнасці «братоў салунскіх» Кірылы і Мяфодзія (826—869; 815—885).

Можна быць у розных адносінах з рэлігіяй, у тым ліку з праваслаўнай царквой (я атэіст), але бясспрэчны і агульнапрызнаны факт, што гэта падзея паклала пачатак якасна новай цывілізацыі на нашай прарадзіме: царква не магла функцыянiраваць, не ўзяўшы на ўзбраенне пісьменнасць і кніжнасць, а значыць, не даўшы дарогі адукацыі і культуры—няхай абмежавана. Калі б на той час не было пісьменнасці, яе неабходна было б вынайсці. У першую чаргу, вядома, для патрэб набажэнства, для замацавання ў пісьмовай форме рэлігійных тэкстаў...

Першым місіянерам праваслаўя на Русі не трэба было вынаходзіць кола. Ужо больш за сто гадоў да хрышчэння Русі, лічы, па суседстве, у паўднёвых славян была свая азбука, свая, славянская пісьменнасць, богаслужэнне вялося па перакладзеных на мясцовую, зразумелую пастве мову, рэлігійных тэкстах. У тагачаснай Балгарыі, якая адной з першых прыняла славянскую пісьменнасць Кірылы і Мяфодзія, узнікла на яе аснове літаратура і ў першай палове X стагоддзя, як сцвярджаюць знаўцы, яна дасягнула «адной з вяршынь у сваім развіцці» (Э. Геаргіеў).

Няма сумнення, што «растыражыраваныя» перапісчыкамі кнігі з Балгарыі і іншых месц рознымі шляхамі траплялі да «маці гарадоў рускіх» — у Кіеў, назапашваліся ў княжацкіх палатах, распаўсюджваліся па розных удзелах. Разам з кнігамі павінны былі прыходзіць грамацеі, якія навучалі русічаў спасцігаць таямніцы пісьмовых знакаў, чытання, пісьма — на мове, блізкай і зразумелай. (Вучоныя сцвярджаюць, што ў тыя далёкія часы гаворкі розных славянскіх плямёнаў мелі больш агульнага, чым цяпер.)

Так, нашы далёкія прашчуры былі не дурні, яны разумелі значэнне пісьменнасці на роднай мове. Кіеўскія князі яшчэ да Уладзіміра - «хрысціцеля» па вартасці ацанілі азбуку Кірылы і Мяфодзія, хоць, вядома, у першую чаргу прыстасоўвалі яе для мэт дзяржаўнай палітыкі. Але аб'ектыўна вынікі аказаліся жыватворныя на доўгія часы для многіх народаў, не ў апошнюю чаргу і беларускага.

Справа Кірылы і Мяфодзія несмяротная, заслугі іх перад нашчадкамі, да якіх адносяць сябе і беларусы, неацэнныя. Гэта ўсведамляе кожны адукаваны чалавек. Але ўсведамленне гэта, на жаль, часта адцягненае, абмежаванае, не падмацаванае грунтоўнымі ведамі. Асабліва гэта датычыць нашай сярэдняй школы, ды, бадай, і вышэйшай — нават на філалагічным факультэце студэнт мала што пачарпне пра жыццё і дзейнасць першаасветнікаў. А што казаць пра шырокую публіку? На вялікі жаль, няма ў нас папулярнай літаратуры пра іх, як, напрыклад, у Балгарыі, дзе сапраўды ўмеюць шанаваць іх памяць, аддаваць належнае іх жыццёваму і творчаму подзвігу.

У Балгарыі здаўна штогод 24 мая адзначаецца Дзень Кірылы і Мяфодзія. Гэты дзень там сапраўды стаў вялікім святам, якое датычыцца кожнага —дарослага і малога, усіх слаёў насельніцтва. Свята не абмяжоўваецца ўрачыстымі пасяджэннямі, афіцыйнымі мерапрыемствамі з дакладамі і доўгімі прамовамі. Не, там сапраўды народ святкуе, весяліцца, спявае, удзельнічае ў шэсцях, танцах, карнавалах. Там гэта свята прыходзіць у кожны дом, у кожную сям'ю.

Чаму б і нам, беларусам, не далучыцца ў гэтай святой справе да братоў-балгараў? Гэта ж наша агульная спадчына. Спадчына, якая не дзеліцца, не драбніцца, не раздзяляе, а аб'ядноўвае і ўзбагачае—кожнага пасобку і ўсіх разам. Беларусы тут не абыдзеныя і не пакрыўджаныя. Пра гэта паклапаціліся нашы продкі, якія, прыняўшы як дар спадчыну Кірылы і Мяфодзія, пашыралі яе на роднай глебе і перадавалі новым пакаленням. Сярод іх былі людзі выдатныя, пра якіх мы сёння гаворым з гонарам. Нам ёсць кім і чым ганарыцца. Варта прыгадаць хаця б некалькі імён з нашай гісторыі. Кірыла Тураўскі — «Златоуст, паче всех воссиявший нам на Русі»... Ці ж яго справа—не ўзвышэнне справы першаасветнікаў Кірылы і Мяфодзія?.. А Францыск Скарына, які падобна (ці па прыкладзе?) ім, карыстаючыся створанай імі кірыліцай, самааддана і самаахвярна перакладаў на даступную «люду паспалітаму» мову тэксты Біблії? А Пётр Мсціславец?..

Нельга сказаць, што ў нас не аддавалася даніны памяці вялікіх славянскіх дзеячаў культуры—пад Дзень Кірылы і Мяфодзія з'яўляліся публікацыі, новыя пераклады з балгарскай мовы. Пацвярджэнне таму—і сённяшнія публікацыі ў «ЛіМе». Але гэтага недастаткова. Феномен Кірылы і Мяфодзія заслугоўвае большага. Яго трэба ўзнімаць на агульнанародны, агульнадзяржаўны ўзровень. Сякія-такія захады ў гэтым кірунку ў нашай краіне робяцца. Дні славянскай пісьменнасці і культуры праходзілі 24—26 мая 1986 года ў Мурманску; у мінулым годзе святкаванне дзён Кірылы і Мяфодзія адбылося ў Волагдзе—з 24 па 31 мая. Сакратарыят праўлення Саюза пісьменнікаў РСФСР прыняў пастанову аб арганізацыі Дзён славянскай пісьменнасці і культуры штогод. Сёлета гэтыя Дні будуць праходзіць у старажытным Ноўгарадзе.

Значыць, ёсць добры прыклад. Застаецца толькі прыняць неабходныя захады Саюзу пісьменнікаў Беларусі, прыцягнуўшы да гэтай справы іншыя творчыя саюзы, каб свята пісьменнасці і культуры — найвялікшых заваёў чалавецтва — штогод у вясновыя майскія дні шырока і радасна пракатвалася па гарадах і весях Беларусі.

**Уладзімір АНІСКОВІЧ.**

**Любамір ЛЕЎЧАЎ**

### Палын

Чарнобыльскі саркафаг
патоне паволі, у багну ўедзе
Патоне ў тым мораку,
што далавах
па-за душой пачынаецца
недзе.

Патоне з ім разам і частачка
нас—
частачка, што ад бяды
не пабегла....
Чаму ж адны сябе трацяць
ураз,
другія шануюць сябе
адпаведна?

Чарнобыльскі саркафаг
апусціцца ў свой касмічны
кратэр.
Патонуць пытанні. Патоне
страх.
Патоне агонь. І жалоба
па стратах...

А наверсе застануцца
варварызмы плаваць —
аварыя, радыяцыя,
катастрофа.
І будзе ў бязмежжы птах
апраменены плакаць.
І будзе ўсё большая ружа
цвісці ў эпохах.

### Аптымістка

Бязветранасць. Духмень
на схіле дня.
Няўжо сусвет змарыўся
і знямеў?
Калі настала гэта цішыня?—
на ўзгорку, у стагоддзі,
ува мне.
Нібы хлапчук, на жухлым лісці
на зямлі
ляжу маўчком. Так доўга,
што нарэшце
мяне за ліст вялізны
прынялі,
і вось я чую праўду з вуснаў
вешчых.
На лад эпічны
мовяць мне лісты:
карычневы,
барвовы, залаты.
Ваша вялікасць вялізарны ліст
з богам! Мы ў бітве
сяашчэннай ляглі.
Аднак і вятрыску,
што рынуўся ўніз
з-пад зораў,—змаглі
ў паядынку, змаглі!
Ён голле ламаў і карэнні
выворваў,
ды выдыхся ў нашым зялёным
агні,
у полымі буйным—злы дэман
прастораў.
Змаглі ў паядынку яго мы,
змаглі!
Ляжу я і ў лад ім гукаю
ганебна:
рыцары вы мае і гладыятары,
спіце спакойна, рабіцеся
глебай,
вецер навек перамогшы
раз'ятраны.

### Ямб пра Юрмалу

Грукоча юрмальскі прыбой!
Да пены клён сагнуўся
кучаравы.
Лютуе бура—
мой жаданы Бог!
І я тут—
толькі след балючай раны.

Бальзам не памагае ад пакут
Мучу нябёсы, словы
маракую...
Я і ў абдымках адзінокі тут,
як адзінокая
у дуле стрэльбы
куля...

Што нам сказаў на развітанні
рыбак у бары—
жрэц марскіх пустынь?
«Пасля такое буры заўтра
ўранні
ідзіце к мору сабіраць
бурштын».

Так ён параіў нам—і знік.

Паэты,
вандроўнікі, у ранішнюю
стынь
пасля мяне агледзьце бераг
гэты—
і самы лепшы будзе ваш
бурштын!

### Капрыз № 4

Шчасце?
Кажуць,
што нібыта гэта плаха
для паэтаў.
Я такога не казаў.
Шчасце,
кажуць—
неспадманнае, сапраўднае —
так распырскана ў жыцці
паўсюдна,
як само жыццё распырскана,
быць можа,
у сусвеце.
Светлавых гадоў
адлегласці!
Светлавыя
безнадзейнасці!
Але ты, таварыш,
не палохайся
заставацца сам-насам
з прастораю,
заставацца сам-насам
у вечнасці,
заставацца сам-насам
перад сабою...
Так, як Праметэй і камень.
Так, як Жанна Д'арк
і полымя.
Так, як Леўскі і пятля.
Так, як шчасце
і паэт.

### Хлеб

Сын да мяне прыйшоў.
У дом бацькоўскі.
Не ў прочкі ад сям'і,
а проста ў госці.
Як думка ў галаў—раптам
завітаў.
Як летні дождж, што тут жа
перастаў.
У цёплым пыле сохнуць
кроплі ўміг.
Прамудрасці жыцця, якіх
я не спасціг.
Пытанні смешныя мае, вядома.
Я знаю ўсё—раз сын
зайшоў дадому.
Раз усміхаецца. Раз п'е віно
няспешна...

З экрана морды крывяцца
пацешна.
— Не абязгрошыў часам?
— Заўтра буду пры зарплаце.
— Чаму—адзін?
— Ды так... Але—усё
нармальна ў хаце.
Чутно: гадзіннік б'е ў суседа
меладычна.
Час падслухоўвае. Ды выдае
сябе.
— Шмат курыш ты...
— Прывычка.

І я дамоў адвожу сына.
Дзе яго новы дом?
Там, дзе канчаецца Гамора
і пачынаецца Садом.
Там гмахі свае цені
аднолькавыя мераюць.
А ў поўні твар—
як у Снягурачкі абмерлай.
І мы—два гномы—
абдымаемсянявесела.
Грук дзверыны. Святло
ў пад'ездзе і на лесвіцы...

І я ганю аўто назад. О, горад
мой,
як добра знаю я цябе—
парой начной!
На гэтым вось рагу была
пякарня.
Тут таінствы пякліся
легендарна.
Апоўнач, калі снег спыняў
усе трамваі,
я марыў пра выратаванне
ў гэтым раі,—
каб між каханнем і самотаю—
на паўдарозе—
пабыць хоць трохі тут
і крылы размарозіць...

І вось мы, летуценнік малады
і пекар з сівізной,
як на сустрэчы дзвюх
стыхій—нябеснай і зямной.
Ён адчыняе печ, а я —
сваё няўрымслівае сэрца.
І кожны азараўся водблiскам
бяссмерця.
Ён падаваў мне хлеб—
ручны, цудоўны,
запечаны ў драўным жары
дыхтоўным.
І прымушаў мяне апавядаць
без зморы
пра ход агульналюдскае
гісторыі.
Я—мог! Свет заўтрашні
падбачыў я тады.
Я быў бязмежна закаханы
і быў бясконца малады.

Той водар хлеба з верай
чалавечай
застаўся ў сэрцы ў творчай
ране вечнай.
Але пякарня таінстваў
зачынена.
Напэўна, пекар-чарадзей
спачынуў.
Дый голаду таго няма,
відаць—
за светам свет прадказваць
і шукаць.
І я, адзін, імчу назад. Адзін
імчу.
І ўсё хутчэй, хутчэй. Не знаю
сам—чаму.
Мой горад—той жа.
І ўвесь свет—тойсамы.
Вунь хлеб, для ўсіх
аднолькавы, прывезлі
ў крамы.
Афішы клеяць. Мыюць вуліцы.
Цалуюцца пад клёнам...

Вярнуўшыся, схілюся я
над тэлефонам.
І сыну так скажу:
— Мой чалавек, паслухай:
ты—мара веку, што ў нябыт
сышоў са скрухай,
Не маеш права ты казаць:
«Я глух і слеп...»
Увогуле... Ты дзе купляеш
хлеб?
А ён адкажа мне
з пяшчотай і трывогай:
— Я ўжо чакаў званка...
Нармальна ўсё, нічога.
Вядома, так... Мая віна—
мая пакута...
А хлеб... А хлеб для ўзросту
для твайго—атрута.

З балгарскай пераклаў
Ніл ГІЛЕВІЧ.

## ДА ДЗЁН СЛАВЯНСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ І КУЛЬТУРЫ

**Марыя ГРУБЯШЛІЕВА**

# Царскае слова

*АПАВЯДАННЕ*

Дзед ПЕНКА выцягнуў босую нагу да камля старой арэшыны. З-пад закасанай абшарпанай штаніны паказаліся сінія і вузлаватыя жылы, нібыта карэнні арэшыны, што вытыркаліся ў траве з зямлі.

Пад старым затрашчала трохногая табурэтка. Ён перакінуў закураную люльку ў другі куток рота, вялікай стракатай насоўкай выцер з ілба пот і прашамкаў:

— Як думаеш, Міхале, ці злітуецца, ці памілуе, га?

Малады селянін, абапёршыся на плот, паціснуў плячамі і паглядзеў на вечназялёныя сосны, якія стаялі нерухома ў цяжкай спякоце. Ён памаўчаў. Потым сказаў:

— Каб толькі ехаў адтуль... Каб нам падаць прашэнне!

На зямлі каля старога сядзеў русявы абарваны хлапчук, маўкліва абстругваў лазіну і пазіраў то на старога, то на брата Міхала.

— А ты, Цане, ці бачыў калі цара? — ласкава спытаў стары.

— Не-а, — абыякава адказала малое.

— А я дык размаўляў з ім. «Харошы ў цябе, кажа, хлопец, стары». Пра Ілійчу. «Юнак»[1]. Я пахваліўся, што хачу вывучыць яго на настаўніка, а ён кажа: «Добра». Ты як думаеш, Цане? Ці выпусцяць нашага Ілійчу? Ці загубяць усё-такі?

Цане склаў сцізорык, паклаў яго ў кішэню, задаволена агледзеў акораную лазіну і сказаў:

— Не ведаю, дзеду Пенка. Гэта залежыць ад цара. Калі захоча — памілуе, а калі не — дык не.

Стары ўздыхнуў і паўтарыў:

— Яно так. Усё ад яго залежыць. Захоча — памілуе, а калі не — дык не.

Ён схаваў у кішэню шараварaў патухлую люльку, крэкчучы ўстаў і абапёрся на ствол арэшыны.

Цара дзед Пенка бачыў не раз. А аднойчы нават размаўляў з ім. Было гэта даўно, калі Ілійчу споўнілася трынаццаць гадоў. Сюды, у рыльскія нетры, цар наведваўся кожны год і аб'язджаў усе дарогі на машыне. І цяпер ён быў тут, паляваў недзе з царскімі людзьмі. Сяляне праз увесь дзень чулі несупыннае рэха стрэлаў. Даносіўся і залівісты сабачы брэх. Кожнага дня дзед Пенка і Міхал чакалі, каб сустрэць цара і падаць яму прашэнне на памілаванне. Усе вочы прагледзеў стары, узіраючыся на дарогі.

Ён усхвалявана патупаў з кійком па траве і нечакана выцягнуў шыю, прыслухаўся. Міхал выбег на дарогу, угледзеўся ў бок лесу, усхвалявана прыклаў руку да вуха:

— Коннікі...

Падбег і Цане...

Сямідзесяцігадовы дзед таксама хуценькімі крокамі патупаў да дарогі. Новай сілай напоўніліся яго старыя жылы. Конскі тупат узмацняўся, недалёка ўжо чуліся і чалавечыя галасы.

— Едуць, едуць, — шаптаў ён, разявіўшы рот, узіраўся ў сцяжыну, якая вілася паміж стваламі векавых соснаў. — Ага, чуваць гамана...

Раптам паказалася трое коннікаў — два вайскоўцы і адзін у гольфах і кепцы.

— Вунь той, у кепцы, — падказаў Міхал старому, злёгку падштурхнуў таго наперад, а сам адскочыў убок, паклікаўшы і Цане.

Дзед Пенка ўдыхнуў паветра, падняў галаву і, абапіраючыся на кіёк, затупаў насустрач ездакам.

— Ваша вялікасць... — хацелася крыкнуць яму, але ён здолеў толькі прашаптаць.

Першы коннік праскочыў каля дзеда Пенкі. Конь ягоны фыркаў і брыкаўся. Другі, той, што быў у кепцы, прыжмурыў вочы, паглядзеў на старога, які высока трымаў сіні канверт. Потым спыніў каня і штосьці сказаў сваім спадарожнікам, але што, стары не дачуў, ці не разабраў. Коннік зняў кепку, і пляшывая галава заблішчэла на сонцы. Дзед Пенка ўсё махаў канвертам і спрабаваў гукнуць:

— Ваша вялікасць...

Але чулася толькі нешта неразборлівае: «Вашліка...»

Цяпер ужо спыніліся і другія два ездакі. Першы прабурчэў нешта сабе пад нос, нібыта гэты нядужы стары ўзняў насустрач цару не пісьмо, а сякеру. Дзед Пенка зрабіў выгляд, што не чуе яго. Ён усё размахваў пісьмом, мармычучы штосьці няскладнае.

— Ну што, стары? Ці не для мяне гэта пісьмо? — нібыта ласкава запытаў Кабург з моцным нямецкім акцэнтам і працягнуў руку да пісьма.

Конь панюхаў белую галаву старога, фыркнуў, хітнуў морду ўбок і як з пагардаю адступіў назад.

Дзед Пенка сабраў апошнія сілы, няўклюдна падскочыў, але сяк-так перадаў канверт у руку цара. Тады ўжо язык у яго развязаўся:

— Табе, табе, ваша вялікасць... Там напісана. Усё напісана... пра Ілійчу Пыдарскага... Не здолеў, ваша вялікасць, на настаўніка яго вывучыць, цеслем стаў... Ці помніш, ваша вялікасць, як аднойчы машына твая засела ў гразі па восі, а мой унук Ілійча і яшчэ два хлопцы памагалі выцягнуць машыну...

Цар слухаў з цікавасцю, але разумеў не ўсё, таму што конь яго фыркаў, перабіраў нагамі і заглушаў словы селяніна.

— Дык што ты ад мяне хочаш? — спытаў ён і саскочыў з каня.

Здзіўленыя і незадаволеныя злезлі з коней яго спадарожнікі. Цяпер ужо дзед Пенка зусім разышоўся:

— Ваша вялікасць, — пачаў ён больш разборліва. — Унук мой, Ілійча Пыдарскі, які тады памог табе, асуджаны на смерць... Дваццаць дзён засталося... Злітуйся над ім... Адзін ён у мяне. Адзін я на свеце... Абодвух маіх сыноў забілі ў той вайне... Баба мая спакутавалася па іх і пайшла на той свет... Толькі Ілійча ў мяне застаўся... Злітуйся над ім!

Кабург агледзеў селяніна ад белых рэдкіх валасоў да мазолістых пальцаў на нагах. Па суровым яго шэрым твары прабег цень, ён узняў бровы і спытаў:

— А чаму ён асуджаны, дзе? Дзе ён цяпер?

— У турме, сынок. Дзе ж яшчэ. У Самокаве яго ўзялі ноччу, і яшчэ чатырох. Награшылі ў нечым перад царскай уладай, вашліка...

Ён не закончыў. Расплакаўся, нібы дзіця. Выціраў вочы і нос рукавамі і ўвесь троссся.

Цар адвярнуўся ўбок — відовішча было непрыемнае. Ён, відаць, каяўся, што злез з каня — лепш было б адразу паскакаць. Але зноў пагледзеў на селяніна. Два вайскоўцы штосьці яму казалі, але што — дзед Пенка так і не разабраў.

— Ваша вялікасць, ты ведаеш яго, майго Ілійчу. Вось гэтай рукой, у якой трымаеш пісьмо, ты пагладзіў яго тады па галаве. І грошы яму даў за тое, што памог табе. Ці помніш, ваша вялікасць... А ён тады перасіліўся, ваша вялікасць, у бальніцы ляжаў і з таго часу ўсё перавязаны ходзіць. І ў войска яго не ўзялі...

Цар задумаўся. Ён стараўся ўспомніць таго Ілійчу, які пацярпеў з-за яго, але з бездані аслабелай яго памяці выплывалі ўспаміны, няясныя ўспаміны пра многіх сельскіх дзяцей, якіх ён гладзіў з якога-небудзь выпадку, катаў іх па сто метраў на машыне і кідаў абыякава дробныя грошы. Але з тых цьмяных карцін ён ніяк не мог узнавіць вобраз Ілійчы. Ён зірнуў на старога і праз сілу ўсміхнуўся.

Дзеда Пенку як працяла сцюжай, ён ажно скалануўся. Штосьці зноў прымусіла яго выцягнуць шыю, і ён, моцна абапёршыся на кіёк, давoдзіў:

— Калі табе патрэбна нечая галава, ваша вялікасць, то я... мая... Яна ўжо нікуды не вартая... Але злітуйся з Ілійчы!

І ўзняў свае выцвілыя вочы на «вялікасць».

У тых вачах была глыбокая пакута за чалавечае жыццё...

Цар крыху памаўчаў, задумаўся, потым ляпнуў старога па плячы і, перадаўшы пісьмо аднаму са сваіх людзей, сказаў:

— Супакойся, стары! Калі тут усё напісана пра твайго ўнука... І імя. Ідзі! Яго не заб'юць. Я скажу, каб яго выпусцілі...

І адразу ўскочыў на каня.

●

Цэлыя дзесяць дзён дзед Пенка жыў у хваляванні. Гадзінамі праседжваў каля парога сваёй хаты і чакаў, калі з'явіцца на дарозе Ілійча.

— Гэта ж царскае слова, — казаў ён аднавяскоўцам, якія недаверліваківалі галовамі. — Калі цар сказаў, што выпусціць, — значыць, выпусціць.

Ён радасна смактаў люльку, цярпліва сядзеў на трохногім крэселцы, і ўсялякі шум, які чуўся з дарогі — ці то конь, ці машына, ці чалавек, — прымушаў яго ўздрыгваць.

Ніколі вяскоўцы не бачылі яго з такой усмешкай на твары. Ён весела загаворваў з кожным дзіцем, цыганам з сяла шчодра раздаваў усё, што было ў хаце, зусім здзяцінелы, размаўляў з сабакам, з курамі.

Але дні міналі, а Ілійча не ішоў. Суседзі пыталіся:

— Можа, хоць пісьмо прыйшло, дзед Пенка?

Пакрысе ўсмешка пакідала ягоны твар: ніякай весткі з горада не было.

— Гэта не так проста, дзед Пенка, каб яго вызваліў цар. Уратаваць яго ад расстрэлу — адно, а зусім выпусціць — гэта другое! — супакойвалі яго вяскоўцы.

Дзед Пенка страціў цярпенне. Яму не сядзелася на адным месцы. Аднаго дня бачылі, як ён шпурнуў трохногім крэслам у сабаку, які

[1] Юнак (балг.) — герой, малойца.

# БЭНДЭ

(Працяг. Пачатак на стар. 8—9).

Як літаратура буржуазная, так і літаратура, якую ўтварыў Колас, Купала і іншыя ім падобныя пісьменнікі, маюць адну агульную рысу, якая іх родніць, гэта тое, што гэтая літаратура з'яўлялася літаратурай уласніцкіх класаў. Гэты факт не мог не спрыяць падпарадкаванню буржуазнай ідэалогіі дробна-буржуазнай па сутнасці творчасці Купалы і Коласа.

...палітычныя мэтаімкненні Купалы... [...] фармаваліся пад уплывам буржуазнага «нашаніўства». У гэты ж перыяд творчасць Купалы знаходзіцца пад інтэнсіўным уплывам буржуазнага нацыянал-лібералізму. Далейшы працэс развіцця Купалы, які адбыўся ў атмасферы «нашаніўства», даходзіць да той ступені, дзе Купала становіцца цалкам сфармаваным «нашаніўцам» і ператвараецца ў ідэолага, баяна «нашаніўства».

Творчасць Купалы з актыўна-дзейнай рэвалюцыйнай ператвараецца напярэдадні Кастрычніка ў ліберaліcцкую, з прычыны адсутнасці рэвалюцыйных элементаў набывае глыбока-нацыяналістычны характар, з усімі ўласцівымі нашаніўскаму нацыяналізму рысамі.

Такой жа якаснай змене, праўда, іншым шляхам, падупала і творчасць Якуба Коласа. Нашаніўскі нацыянал-лібералізм выхаласціў рэвалюцыйныя элементы з творчасці Якуба Коласа, запоўніў яе буржуазным нацыяналізмам.

Кастрычніцкую рэвалюцыю Купала і Колас сустракаюць з пазіцыі буржуазнага нацыянал-лібералізму, у лагеры нацыяналізму.

...Яны (Купала і Колас. — **Б. С.**) не ўспрынялі пралетарскую рэвалюцыю, як рэвалюцыю, якая можа вызваліць працоўныя масы ад эксплуатацыі капіталістаў, памешчыкаў і ад нацыянальнага прыгнёту. Пралетарская дыктатура ў іх вачох уяўлялася як новая форма сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту.

. . . . . . . . . . . . . .

Інакш адбылася эвалюцыя З. Бядулі. Носьбіт і выразнік дробна-буржуазнай ідэалогіі, ідэаліст па светапогляду, у часы царызму ўцякаючы ў свет мар і фантазіі, у часе рэвалюцыі злучаецца з беларускім контррэвалюцыйным нацыяналізмам. Свайму расплывістаму светапогляду, абстрактным мэтам «хараства» надае канкрэтны, завостраны клясавы буржуазны змест... З першых дзён Кастрычніка Бядуля вядзе актыўную барацьбу супроць пралетарскае рэвалюцыі, усе свае сілы, здольнасць і нават сродкі пускае ў ход, каб дапамагчы беларускай буржуазіі разам з акупантамі задушыць пралетарскую рэвалюцыю.

. . . . . . . . . . . . . .

Уплыў буржуазнай ідэалогіі сказаўся і на творчасці Цішкі Гартнага... [...] Творчасць Гартнага пад уплывам буржуазнага нацыяналізму мяняе рэчышча свайго развіцця і становіцца выяўленнем псіхікі дробнай буржуазіі...

...На Кастрычніцкую рэвалюцыю Гартны актыўна адгукаецца сваёю творчасцю. Яго вершы напоўнены заклікам руйнаваць старое, імкнуцца да зор, наперад. Але гэта ўспрыманне Кастрычніка зноўтакі з'яўляецца ўспрыманнем толькі павярхоўнасці, вонкавых праяў, у той час, як унутраны клясавы змест рэвалюцыі, мэты рэвалюцыі, перспектывы, якія разгарнуў Кастрычнік, у іх канкрэтнасці асталіся не ўсвядомленымі пісьменнікам.

Гэта дробна-буржуазнае ўспрыманне Кастрычніка Гартным выразна праяўляецца ў яго творчасці і дзейнасці пасля рэвалюцыі. Творчасць і дзейнасць Цішкі Гартнага паказалі ўсю супярэчлівасць дробна-буржуазнай прыроды пісьменніка і яго сацыяльнага слою...

. . . . . . . . . . . . . .

Янка Купала, як мы ўжо гаварылі, сустрэў Кастрычнік як ідэолаг буржуазнага нацыянал-адраджанізму. Гэтым у асноўным і тлумачыцца варожая яго пазіцыя да пралетарскай рэвалюцыі і дыктатуры пралетарыяту ў часы грамадзянскай вайны.

У першыя гады мірнага будаўніцтва Купала, асляплены буржуазным нацыяналізмам, усё яшчэ актыўна супрацiўляецца ў сваёй творчасці пралетарскай дыктатуры.

. . . . . . . . . . . . . .

З такой жа павышанай нацыяналістычнай рэфлекцыяй сустракае ўстанаўленне і замацаванне пралетарскай дыктатуры на Беларусі і Якуб Колас...»

**Бясспрэчна, нялёгка паддавалася асэнсаванню, ды і адлюстраванню новая савецкая рэчаіснасць. І пэўныя цяжкасці ў гэтым, вядома ж, былі. І не толькі ў беларускіх пісьменнікаў, але і ў рускіх так**

разграбаў смецце. А калі з ім хто загаворваў, ён міргаў і заікаўся:

— Ці ж ведаў я, што... Ляпаў мяне па плячы, абяцаў, я дзякаваў яму... Бо ўспомніў, як тады Ілійча выцягваў машыну з гразі... Ды нават пагладзіў яго па галоўцы. Абяцаў, і на табе... Няма яшчэ Ілійчы.

І калі сяляне пазіралі на яго са шкадаваннем, ён няўпэўнена і падазрона, нібы для свайго суцяшэння, казаў:

— Дык жа абяцаў! Гэта ж царскае слова...

Міхал выправіўся ў горад, каб даведацца, што сталася з Ілійчам, бо разам жа раслі, разам дзецьмі вучыліся.

Калі праз тры дні Міхал вярнуўся, вакол яго сабраліся вяскоўцы. Яны курылі, пляваліся, лаяліся. Усе думалі, як паведаміць дзеду. Калі схлусіць яму, усё роўна рана ці позна даведаецца. Трэба сказаць яму, што тая рука, якая гладзіла некалі дзіця па галоўцы, якая абяцальна паляпала старога па плячы, падпісала смяротны прысуд. Ужо тыдзень назад Ілія Пыдарскі разам з іншымі чатырма падпольшчыкамі быў на золку расстраляны.

Стары ўбачыў купку сялян, зразумеў, што яны гавораць пра яго, і рушыў да іх. Тыя падаліся насустрач яму, але стары не мог пераняць іх паглядзы: усе глядзелі неяк убок. Збялелы, дзед Пенка наблізіўся да Міхала і заторкаў кіем у сухую зямлю.

— Ну? — гучна сказаў ён. — Чаго шэпчацеся? Ці жывы Ілійча?

Міхал зразумеў, што стары гатовы пачуць самае страшнае. Ён ссунуў шапку на патыліцу, вінавата пракашляўся і толькі тады адважыўся паглядзець яму ў вочы:

— Дзярмо тое царскае слова, дзед Пенка...

— Як? Расстралялі?.. — ледзьве прамовіў стары, утрапёна гледзячы хлопцу ў рот.

— Расстралялі, яшчэ ў тую пятніцу... — прагаварыў і адвёў вочы Міхал.

Стары захістаўся. Ён пачаў торгаць кійком, каб утрымацца, але той нібы патануў у зямлі.

— Царскае слова... Царскае...

Стары паварушыў вуснамі, аблізаў іх, нібыта хацеў сказаць яшчэ нешта, але язык у яго як адняўся.

Ён уздрыгнуў, памкнуўся ўхапіцца за плот, але не дацягнуўся і абсунуўся на зямлю.

З балгарскай пераклала
Вера МАСЛОЎСКАЯ.

# УРОК ШАСЦІДЗЕСЯТЫХ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4).**

і глядзець на тых, хто ў зале, як на шэрую масу, як на фон сваёй абранасці, сваёй выключнасці. Але гэтай шэрай масы даўно няма. І няма, калі хочаце, з тых жа часоў, з тых жа шасцідзесятых. Ніколі не забыць, як у самы апагей цкавання Быкава збіраліся подпісы пад гарачым пісьмом у абарону Васіля, як ставіліся гэтыя подпісы проста на вуліцы, каля «лімаўскага» ганка, і замест стала была спіна каго-небудзь з хлопцаў, не забыць, які баявіты, дзёрзка-вясёлы настрой быў ва ўсіх, хто падпісваў, і хоць праз некалькі дзён многія пабеглі ў «высокі дом» адмаўляцца ад свайго подпісу, гэты байцоўскі настрой цалкам не знік, а толькі затаіўся да пары да часу, як затаілася пад ільдом застою ўся плынь дваццатага з'езда, плынь ленінскай канцэпцыі сацыялізму, каб магутным веснавым разлівам выбухнуць сёння пад сцягамі перабудовы, галоснасці і дэмакратызацыі. І не крыўдзіцца за напамін аб іх колішняй пазіцыі трэба некаторым таварышам, а канчаткова перагледзець яе, зламаць у сваёй свядомасці старыя стэрэатыпы, бо — і гэта галоўнае! — напамінаць не было б прычыны, калі б і сёння тая пазіцыя ваяўніча не заяўляла аб сабе. Згаданы ўжо артыкул у «Советской России» — красамоўнае сведчанне гэтаму.

Сумна і прыкра, што на працягу «трох тыдняў Ніны Андрэевай», як дасціпна назваў нехта адрэзак часу з 13 сакавіка па 5 красавіка, калі ўся краіна нібы анямела, і ў нас амаль ніхто, ва ўсякім разе, у друку, не адрэагаваў на артыкул у «Советской России» з пазіцый перабудовы, не кінуўся ў бойку з ім для таго, каб акрэсліць, нарэшце, сваю пазіцыю.

Ці не чакалі, куды ўсё павернецца? Ці не здалося, што перабудова дае задні ход? Многім, відаць, здалося. Таму і разгубіліся. Але галоўную ролю адыграў страх. Той самы страх, які зрабіўся нашай другой натурай, які перадаўся нам з крывёю дзядоў і бацькоў. С т р а х! Цяжка, вядома, праз яго пераступіць, гэтак жа цяжка, як салдату адарвацца ад зямлі і кінуцца ў атаку. Але трэба зразумець, што наступіў момант, калі баязлівасць становіцца з д р а д а й справе сацыялізму, здрадай будучыні — і нашай уласнай, і будучыні нашых дзяцей і ўнукаў. Ды і тое яшчэ трэба ўсвядоміць, што, калі б кансерватарам сталінісцкага толку ўдалося пахаваць перабудову, яны, узяўшыся за «праполку», за «выкарчаванне» перабудоўшчыкаў, не абмінулі б і маўчальнікаў, — млын сталіншчыны, як бы яна сябе ні назвала ў далейшым, і многіх з іх зацягнуў бы ў свае жорны...

Аднак, акрамя звычайных баязліўцаў, якія ў душы за перабудову, ёсць яшчэ і нейтралы. Ну, што ж, паміж франтамі, якія супрацьстаяць адзін аднаму, заўсёды ляжыць нейтральная паласа. Але ці не занадта шырокая яна, у прыватнасці, у нашай рэспубліцы, у нашай сталіцы, ва ўсякім разе — у параўнанні з Масквой? Нарэшце — у нашым Саюзе пісьменнікаў? Але ж нейтралізм сёння — гэта плацдарм антыперабудовы, на якім яна можа перагрупоўваць і кансалідаваць свае сілы. Таму не будзе памылкай сказаць, што нейтралізм у нашы дні становіцца больш небяспечным, чым нават страх. І больш г а н е б н ы м, чым страх. Бо нейтралы разлічваюць далучыцца да пераможцаў, кім бы гэтыя пераможцы ні былі. Вось тады нейтралы і праявяць актыўнасць! Як гэта ўжо і было ў шасцідзесятыя...

Дзеля таго, каб новае пакаленне маладых не набіла сабе тыя ж шышкі, што набілі мы, каб іх не спасцігл тыя ж расчараванні і не засмактала, як нас, балота неасталінізму, я і згадаў некаторыя моманты мінулага. Калі гаварыць зусім шчыра, згадаў не без страху, пераадольваючы і шэпт добразычліўцаў, і свой уласны ўнутраны шэпт: «Не высоўвайся!» І цяпер толькі адно палохае: «Няўжо я адзін пра ўсё помню, адзін так думаю?» На шчасце — не адзін! Бо адзін, можа, і не высунуўся б...

Такія вось думкі нарадзіліся над старой, амаль пажоўклай ад часу «Литературной газетой», над газетамі сённяшняга дня — вострага, складанага пярэдадня XIX партканферэнцыі.

# Часопісы ў маі

## «БЕЛАРУСЬ»

**Пад рубрыкай «Актуальны погляд» прапануюцца развагі В. Дубінкі «Хочаш кватэру? Калі ласка!».**

**Публікуюцца ўрывак з п'есы С. Алексіевіч «Сны чырвонай Юліі» («Марутка»), вершы П. Пранузы і С. Панізніка, працяг аповесці Ж. Сіменона «Пад страхам смерці» (пер. А. Асташонка).**

**В. Лапін расказвае пра подзвіг мінчаніна А. Ярмоленкі, які стаў на шляху бандытаў — «Борт № 65877».**

**Сярод іншых матэрыялаў — успаміны А. Васілевіч пра У. Караткевіча («Позні званок»), погляд М. Тычыны на гістарычную прозу («Куды ўпадзе страла?»), чарговая старонка «Анталогіі беларускай паэзіі 20-х гадоў», штрыхі да партрэта К. Арлоўскага, напісаныя А. Казловічам («Чалавек веруючы»), рэцэнзія народнай артысткі БССР З. Канапелькі на «Гісторыю беларускага тэатра» ў трох тамах («Гартаючы старонкі «Гісторыі...»), уражанні А. Ваніцкага ад паездкі ў Ісландыю («У краіне гейзераў і ...паэтаў»).**

## «МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ»

**Нумар адкрываецца рэдакцыйным артыкулам «У сугуччы з часам» — пра перабудову ў кінематографе. Пытанням развіцця кінадакументалістыкі прысвечана публікацыя У. Мароза «А фільмы ствараюцца...». «Рэалізаваць сябе» — дыялог Э. Мельнікава і У. Пранько пра аператарскае майстэрства.**

**Пра сцэнічнае ўвасабленне п'есы А. Дударава «Радавыя» ў тэатрах Масквы разважае А. Сабалеўскі («Пра падзеі на схіле вайны»), «Дыялогі з Барысам Луцэнкам» вядзе А. Ганчароў, Т. Арлова рэцэнзуе спектакль «Жыццё Карыцына, або Урокі хірамантыі» па п'есе А. Паповай у тэатры імя Я. Купалы, Г. Сяўковіч — «Мяшчане» М. Горкага ў тэатры імя Я. Коласа.**

**Пытанні гісторыі і сённяшняга дня выяўленчага мастацтва разглядаюцца ў публікацыях В. Шматава «Урок у «акадэміі Міхася Філіповіча», А. Мацеевіча «Талент бескампрамісны і незалежны», Я. Шунейкі «Пленэр у зоне адчужанасці» і іншых.**

**Падзеі Першага ўсесаюзнага фестывалю музычных тэатраў у Мінску асвятляюцца ў матэрыялах Т. Мушынскай «Пяць вечароў з Тэрпсіхорай», І. Корн «Скрозь прызму жанру» і ў інтэрв'ю з удзельнікамі фестывалю. «А што ў маладых?» — развагі Д. Падбярэзскага пра Рэспубліканскі фестываль выканаўцаў савецкай маладзёжнай песні «Наваполацк-87».**

**Самадзейная творчасць і пытанні народнага мастацтва асэнсоўваюцца ў артыкулах Р. Шауры «Памяць абавязвае...», М. Шчасновіч «Калі мара становіцца явай», В. Жыліна «Вечны кліч».**

## «БЯРОЗКА»

**Сярод літаратурных матэрыялаў апавяданні В. Хомчанкі, заканчэнне аповесці П. Ткачова, у якой расказваецца пра жыццё і напружаную асветніцкую дзейнасць І. М. Ульянава, вершы Л. Пранчака.**

**Адкрыта ў нумары завочная «Фотастудыя «Бярозкі», якую будзе весці А. Дзітлаў. Л. Аляксандрава расказвае пра брэсцкі ўзорны хор «Салавейка». З інтэрв'ю «У якія дзверы стукацца?», што ўзяў М. Гелер, школьнікі даведаюцца, дзе ўлетку можна ўладкавацца на працу, а з матэрыялу «Аптэка на градцы», падрыхтаванага супрацоўнікамі Рэспубліканскай станцыі юных натуралістаў Л. Балабановіч і З. Барысавай, — як вырошчваць і збіраць лекавыя расліны. У рубрыцы «Мода-88» Ю. Рудзіна, мастак-мадэльер Беларускага цэнтра моды, пазнаёміць дзяўчынак з новымі мадэлямі блузак.**

**Прапануюцца легенда ў малюнках А. Глобуса «Дзікае паляванне...» паводле аповесці У. Караткевіча і «Займальныя доследы», перакладзеныя з англійскай мовы Я. Масарноўскім.**

## «КРЫНІЦА»

**Прапануюцца вершы С. Сокалава-Ваюша, апавяданні С. Дубаўца і Я. Драздa. У раздзеле «Спадчына» А. Сідарэвіч прадстаўляе творы А. Зязюлі.**

**«Здароўе ў парадку» — фельетон П. Якубовіча.**

**На анкету часопіса адказваюць Р. Барадулін, У. Арлоў, М. Тычына, В. Маслюк, А. Камоцкі.**

**Пад рубрыкай «Рысы часу» змешчаны развагі В. Ягоравай «Кожны дзень і навекі». «Магнітнае поле» — нарыс Л. Екеля публікуецца пад рубрыкай «Пазіцыя».**

**Друкуецца ліст 58 аўтараў аб экалагічным становішчы ў Гродне.**

**Чытача зацікавяць і матэрыялы «Маналог біча...» Н. Громавай, «Зацяжны цыклон» А. Казловіча, «Напісана рукою» В. Грыцкевіча, штрыхі да творчага партрэта мастака І. Цішына, напісаныя А. Глобусам.**

---

**званай «старой школы» — успомнім хоць бы тых жа М. Прышвіна, В. Верасаева, С. Сяргеева-Цэнскага, А. Грына, В. Шышкова, М. Клюева, С. Ясеніна, А. Ахматаву і нават М. Горкага. Але, нягледзячы ні на што, кожны з названых майстроў, у тым ліку і беларускія, у меру сваіх сіл і здольнасцей, яе асэнсоўвалі, адлюстроўвалі. Ды што было да таго Бэнду! Ён, узяўшы ў рукі крытычны бізун, размахваў ім, лупцаваў усіх, хто трапляў яму на вочы без асаблівай павагі і разбору:**

«Развіццё творчасці Купалы ў савецкі перыяд адбываецца праз барацьбу здаровай тэндэнцыі з старым нацыяналістычным, якое пераважае пакуль што ў творчасці Купалы за час савецкага перыяду. Так досыць часта здаровыя тэндэнцыі паслабляюцца, затрымліваюцца нацыяналізмам, буржуазна-адраджэнцкай ідэалогіяй. Твор «Арлянятам» са здаровым зместам паслабіўся ў свой час творам «Безназоўнае», а твор «Дзве сястры» — глыбока ўпадніцкім вершам «У лесе», «Па Даўгінаўскім шляху», «Каб» і гэтак далей. Вершы «У лесе», «Па Даўгінаўскім шляху», «Каб» і шэраг іншых, напісаных пераважна ў 1926 г., носяць на сабе глыбокія сляды буржуазна-нацыяналістычнай ідэалогіі, якая фармавала ў асноўным гэтыя творы, у барацьбе супраць пралетарскай ідэалогіі, уплыў якой вызначае здаровую тэндэнцыю.

Такі ж, прыблізна, працэс развіцця і творчасці Якуба Коласа ў савецкі перыяд... [...] Асноўнае, што характарызуе светапогляд Якуба Коласа, гэта наданне месіянскай ролі інтэлігенцыі, своеасаблівая фетышызацыя яе як культурнай сілы. Гэты падыход выяўляецца ў аповесці «На прасторах жыцця» ў своеасаблівай фетышызацыі навукі, у своеасаблівай ідэалізацыі інтэлігенцыі, якая ідзе з вёскі, і ў затушаванні наўпрэкі намерам аўтара, ролі рабочае клясы ў сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі ў аднаўленчы перыяд.

. . . . . . . . . . . . . . .

Прыстасаванне буржуазнай нацыяналістычнай інтэлігенцыі і капіталістычных элементаў да ўмоў пралетарскай дыктатуры ў эпоху нэп'у, успрыняцця эпохі пралетарскай дыктатуры як нечаканага этапу «завяршэння» нацыянальнага адраджэння Беларусі ў буржуазным сэнсе, — знайшло сваё клясычнае выяўленне ў творчасці З. Бядулі. Калі ў часе грамадзянскай вайны Бядуля актыўна змагаецца супраць пралетарскай рэвалюцыі з лагеру нацыяналістычнай контррэвалюцыі, дык пасля сканчэння грамадзянскай вайны, калі рабочыя і сяляне пачалі будаваць новую, савецкую сацыялістычную Беларусь, Бядуля ў гэты час піша ў сваёй «Беларусі»:

...Усё жыве жыццём дзядоў адвечных.
Тут кожны век пакінуў знак—пячаць.
Па тых знакох—па тых шляхох па млечных
Ідуць сыны свой край адбудаваць.

Кастрычніцкая рэвалюцыя, пралетарская дыктатура, паводле думак паэта, ніякіх кардынальных, не гаворачы ўжо пра карэнныя, змен у жыццё Беларусі не ўнесла, а толькі адно, што зрабіла, дык гэта павялічыла сілу «новага роду продкаў Скарыны», якія самі «наладзяць сваё веча», самі «азначаць свае межы», самі забяруць усё, што «належа. Маць Беларусь, спакон глухіх вякоў!..»

Каб угрунтаваць сваё буржуазнае, нацыяналістычнае ўспрыманне эпохі пралетарскай дыктатуры, Бядуля праглядае з асаблівым замілаваннем мінулае Беларусі, але ж не Беларусі прыгнечаных і эксплуатуемых, а мінулае пануючых клясаў, уводзячы гэтае мінулае ў сымбаль славы Беларусі, у сымбаль яе сілы, у сымбаль права на сваё самастойнае існаванне.

...Такім чынам, нават павярхоўнае азнаямленне з творчасцю Бядулі прыводзіць нас да вываду, што ён, як і Купала, і Колас у першыя гады пасля сканчэння грамадзянскай вайны не мірыцца з рэвалюцыйнай рэчаіснасцю, з умовамі пралетарскай дыктатуры. Гэтая рэвалюцыйная рэчаіснасць, пралетарская дыктатура, ідэалы, за якія гераічна змагаліся і змагаюцца рабочыя і рэвалюцыйнае сялянства — арганічна чужое для Бядулі, варожае той клясе, ідэямі якой насычана яго творчасць...» («Беларуская літаратура», ч. 1, Мн., 1934 г., с. 1—26).

**Вось жа: выкрываючы, выносячы прысуд усім, усёй, фактычна, тагачаснай лепшай беларускай літаратуры, Бэндэ не думаў, што тым самым выкрывае, выносіць прысуд самому сабе. Пройдуць гады, і яго доказы вінаватасці іншых стануць доказамі вінаватасці яго самога. Сапраўды, «пути господни неисповедимы...»**

**Вядома, усё гэта гаварылася, пісалася Бэндам з улікам таго, што мелася адбыцца, ды і адбылося ў трыццатым годзе. А ён, гэты год, быў для Беларусі цяжкі і, можна сказаць, пачаў адлік яшчэ цяжэйшым гадам...**

**(Працяг будзе).**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Уладзіміру Калесніку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці сястры Марыі Андрэеўны.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне паэту, намесніку старшыні Савета па беларускай літаратуры СП СССР Ігару Шклярэўскаму з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

